


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

21 жніўня 2020 года №34 (1321)

18+


# Беларусы пратэстуюць

Маладзечна, 16 жніўня

Фота Настассі УТКІНАЙ.


Мірныя пратэсты ў рэгіёне працягваюцца

старонка 5



«Калі збіваў АМАП, брат майго аднакласніка пасмяяўся і пайшоў. Ён міліцыянер»

старонка 21



ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by










«Трэба раtаваць імя настаўніка». Педагогі Маладзечна сабраліся на акцыю пратэсту

старонка 2



Віляйчанка, што працуе ў турыстычнай сферы, расказала, як каронавірус паўплываў на турызм

старонка 3

# «Трэба ратаваць імя настаўніка»

## Педагогі расказалі, чаму далучыліся да мірнай акцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**15 жніўня да традыцыйнай акцыі на Вялікім Гасцінцы далучыліся педагогі з некаторых школ Маладзечна.**

На 13:00 іх было да 20 чалавек – прадстаўнікі школ №4 і №8, 10-й гімназіі, настаўніца-пенсіянерка з 11-й СШ. Самай шматлікай была дэлегацыя санаторнай школы-інтэрната Маладзечна.

Таксама былі вучні і выпускнікі некаторых школ. Педагогі расказалі карэспандэнту, чаму яны сёння тут.

### Таццяна Уладзіміраўна, СШ №8: Я была членам камісіі і лічыла праўдзіва

Настаўніца пачатковых класаў **Таццяна Уладзіміраўна** працуе ў СШ №8. На акцыі яна выпадкова сустрэла сваю ранейшую вучаніцу – маладзечанку **Паліну**.

– Сёння я тут – на мірнай акцыі. Нікога не баюся. Я ж не раблю нешта незаконнае, не парушаю Канстытуцыю. Такім чынам выказваю сваю думку, – тлумачыць Таццяна Уладзіміраўна. – Мы бачым, што адбываецца ў краіне. Каб былі праўдзівыя выбары, гэтага не было б. Не было б столькі слёз, гора і загінулых.

Я лічу, настаўнікам цяпер вельмі важна выходзіць на падобныя акцыі. Цяпер шмат негатыву ў іх бок. Хаця многія – дастойныя людзі. Не ўсе ж сядзелі на выбарах.

А я была членам камісіі на ўчастку №35, што на вуліцы Тамары Дудко. І на нашым участку перамагла Ціханоўская.

> **Мы палічылі праўдзіва. У Ціханоўскай – значная перавага.**

Маладзечанка Паліна падтрымлівае сваю першую настаўніцу. Кажа, што і яна супраць фальсіфікацыі выбараў, супраць гвалту і вайны.

### Ірына Тархан, санаторная школа-інтэрнат: Хочацца, каб слова «настаўнік» гучала горда

**Ірына Тархан** прыйшла на акцыю як выхавальнік санаторнай школы-інтэрната і як мама дачкі і сына:

– Мы зразумелі, што трэба выходзіць і нейк ратаваць імя настаўніка. За апошнія дні слова «настаўнік» – гэта асацыяцыя з фальшам, брудам, фальсіфікацыяй. Усе мы вучыліся ў школе. У нас ёсць са школы і светлыя ўспаміны, і любімыя педагогі. Мы праз усё жыццё нясём найлепшыя ўспаміны пра сваіх настаўнікаў. Хай і нашы дзеці добра ўспамінаюць сваіх педагогаў у дарослым жыцці. Хочацца, каб слова «настаўнік» гучала горда.

Мае дзеці вельмі любяць сваіх настаўнікаў. Дачка Арына, ужо выпускніца, з цеплынёй згадвае першую настаўніцу з дзясятай гімназіі – **Валянціну Аляксандраўну Дзятковіч**. Сын Міша не дачакаецца, калі зможа ўбачыць сваю настаўніцу з гімназіі №6 **Наталлю Васільеўну Абуховіч**. Мы вучым дзяцей любіць і паважаць сваіх настаўнікаў.




Дэлегацыя з санаторнай школы-інтэрната Маладзечна была самай шматлікай.

### Ніна Жук, гімназія №10: На акцыі – мае выпускніцы. І я паважаю іх пазіцыю

– Сёння нас магло б быць больш. Але ж лета – настаўнікі ў адпачынках. Ведаю, што мая калега-маладзечанка выходзіць на акцыю ў Смаргоні, бо яна цяпер там, – кажа настаўніца матэматыкі гімназіі №10 ***Ніна Аляксандраўна Жук***. – Стаю за сумленных настаўнікаў, супраць гвалту, супраць дзеянняў сілавікоў і таго, што робіцца цяпер, за праўдзівыя выбары. Стаю, бо не магу па-іншаму.

Я ўжо казала калегам: калі б кожны з вас праўдзіва палічыў галасы, то сёння спаў бы спакойна. І, магчыма, наша радзіма не атрымлівала збітыміі сваіх дзяцей.

Я чалавек адкрыты. Прапанавала калегам выйсці прагуляцца супраць гвалту і беззаконня, і хто пажадаў – той сёння з намі. Учора нехта быў на плошчы, нехта – ля райвыканкама.

Нашы дзеці прыйшлі і вывесілі на плот каля гімназіі свае граматы і выпускныя стужкі. А праз 20 хвілін усё гэта знялі. А дзеці стаялі і глядзелі. А пасля сказалі: мы яшчэ вернемся.

Але я папрасіла дзяцей напісаць пасты пра тое, што ёсць сумленныя настаўнікі, якія стаяць тут. Сёння з намі мае выпускніцы – дзяўчынкі, у якіх я была класным кіраўніком. Я вітаю іх учынак. Гэта грамадзянская пазіцыя. Перад выбарамі я напісала пост у групе сваіх дзяцей. Не агітавала. Але сказала: вы цяпер ужо дарослыя, паўналетнія, прагаласуйце. І хай ваш голас пачуюць.

Я не апазіцыянер, не палітык. Але майго брата і майго пляменніка затрымалі ў розных месцах Мінска 9 жніўня, калі яны вярталіся з працы. Аднаго білі, пакуль везлі ў Жодзіна. Другога білі на Акрэсціна. Чацвёра сутак мы не маглі знайсці роднага чалавека. Я стаю і за іх таксама.

Ніна Аляксандраўна і яе калегі, што выйшлі на акцыю, лічаць, што прэстыж настаўніцкай прафесіі вельмі ўпаў. А гэтай акцыяй педагогі спрабуюць яго падняць.

### Лілія Калеснікава, СШ №4: Я – сумленны настаўнік

– Лепш, чым сказала калега, Ніна Аляксандраўна, не скажаш. Я стаю тут ужо трэці дзень. У мяне таксама сямейная драма. Сына затрымалі 14 ліпеня ў Мінску, калі не зарэгістравалі Віктара Бабарыку. Вялікі дзякуй усім беларусам. Той штраф, што яму прысудзілі, вельмі хутка сабралі. Але мы яшчэ не плацілі і спадзяёмся, што не трэба будзе плаціць. Судзілі па двух артыкулах – удзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах і супраціўленне супрацоўніку міліцыі. Я – сумленны настаўнік.

### Алена, пенсіянерка, былая настаўніца СШ №11: Маё месца тут

**Алена** выкладала фізіку ў СШ №11. Цяпер – на пенсіі. На акцыі стаіць трэці дзень:

– Калі ўбачыла жанчын на акцыі, зразумела: маё месца тут. Учора была на плошчы. Буду выходзіць кожны дзень. Я бачыла жахлівыя здымкі з затрыманняў. Ёсць пабітыя і затрыманыя сярод маіх знаёмых. Мяне абураюць зверскія адносіны да людзей. Не магу сядзець, калі такое робіцца ў нашай краіне. Цяпер важна выходзіць не толькі настаўнікам, а ўсім.

Нават мая мама, якой 80 год, ужо думае пра тое, каб сюды прыйсці. Яна неяк хадзіла па справах, у краму, і таксама крыху пастаяла на акцыі. Яна – з намі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# «Практычна паўгода працавалі без заробку»

## Віляйчанка, што працуе ў турыстычным бізнесе, – пра ўплыў пандэміі на турызм

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанка Вераніка Гіль працуе ў адной з турыстычных кампаній. Калі пачыналася пандэмія, дзяўчына была дырэктарам прадпрыемства.**

– Праца мне не проста падабаецца. Гэта любімая праца. У нас маленькае прадпрыемства. Мы доўга і свядома прымалі ўмовы працы ў турыстычным бізнесе – нізкую маржынальнасць (паказчык эфектыўнасці работы кампаніі), вялікія фінансавыя рызыкі, значную канкурэнцыю на рынку, – пачынае Вераніка.

Дзяўчына перакананая: тыя, хто больш за дзесяць год працуе ў гэтым бізнесе, сапраўды любяць турызм. Стаж Веранікі – 12 год.

### Наіўна лічылі: успышка застанецца лакальнай

У снежні-студзені супрацоўнікі прадпрыемства ўжо ведалі пра каронавірус. Але спачатку гэта іх не асабліва непакоіла:

– Працуючы ў турызме, мы крыху ведаем пра азіяцкія краіны. У іх там штогадовыя ўспышкі вірусаў: і ў Ганконгу, і ў В'етнаме. Таму мы наіўна лічылі, што ўспышка застанецца лакальнай, як гэта было кожны год. Пра маштаб пандэміі і пра тое, што адбудзецца калапс нашай галіны, стала вядома ў канцы лютага.

І ўсё ж прадпрыемства мела справу з арганізаваным турызмам. А гэта значыць, пакуль не зачыняецца мяжа і паветраная прастора, усё працягвае функцыянаваць, згодна з дагаворамі. Самалёты лятаюць, гатэлі прымаюць турыстаў.

– Чартарная перавозка тым і добрая, што ў любым выпадку ўсіх турыстаў вывозяць, згодна з дагаворам. У нас не было таго, з чым сутыкнуліся самастойныя турысты, якія не маглі вярнуцца дамоў з-за адмены рэйсаў, – працягвае суразмоўца.

**– Калі ж паветраную прастору зачынілі амаль усе краіны свету, канешне, у галіне здарыўся абвал. Усё адбылося на працягу двух тыдняў.**



Сёлета далёка не кожны беларус мог пазіраваць на марскім беразе.

### Упершыню за шмат гадоў працавалі з форс-мажорам

Прадпрыемства, дзе працуе Вераніка, афіцыйна не зачынялася. Кажа, гэта немагчыма было зрабіць, бо і супрацоўнікі, і турысты сталі закладнікамі сітуацыі. Упершыню за шмат гадоў прадпрыемства мусіла працаваць з рэальным форс-мажорам. Продажаў не было. Але было шмат працы з прэтэнзіямі, зваротамі, бягучымі пытаннямі. Офіс не мянялі, нікога не звальнялі. Супрацоўнікі некаторы час былі на самаізаляцыі. І як галіна, што найбольш пацярпела ад пандэміі, чакалі рашэнняў на дзяржаўным узроўні.

– Адразу кабінет міністраў рыхтаваў такі план падтрымкі, – прыгадвае Вераніка. – Было некалькі пасяджэнняў, але ў выніку нічога так і не зацвердзілі: ні падатковыя канікулы, ні мараторый на выплаты, ні зніжэнне арэнднай стаўкі.

### А дзяржава запытала тлумачальную за справаздачны перыяд

Заснавальніца прадпрыемства вырашыла, што ўсе працягнуць працаваць. Усе выдаткі за тры месяцы да аднаўлення палётных праграм яна ўзяла на сябе. Фактычна паўгода супрацоўнікі былі без заробку. Былі выключна асабістыя рэсурсы, каб выжыць, застацца на рынку і не абанкруціць прадпрыемства, – адзначае Вераніка.

Першымі пра адкрыццё межаў і паветранай прасторы пад чартарныя перавозкі заявілі Албанія і Чарнагорыя. Пазней – Турцыя і Егіпет. Днямі – Туніс. На сёння для адпачынку адчынены пяць краін. Але і пры такой невялікай колькасці ўжо можна рэанімаваць бізнес, перакананая дзяўчына.

– Ці справіліся мы? Так. Без судоў, з хуткім вяртаннем турыстам перадаплаты, па жаданні з пераносам тураў на наступны год. Спраўляемся. Але не дзякуючы падтрымцы дзяржавы, а насуперак. Выключна за кошт уласных рэсурсаў і ўменне людзей дамаўляцца паміж сабой. А дзяржава ў асобе кантралюючых органаў запытала ў нас тлумачальную за справаздачны квартал. Напэўна, у іх рэальнасці не было каронавіруса і калапсу галіны. У іх рэальнасці нельга паказваць сапраўдны мінус у дзейнасці прадпрыемства, – адзначыла Вераніка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Дзіцячы цэнтр «Надзея» выйшаў на акцыю салідарнасці

ВІЛЕЙКА

18 жніўня супрацоўнікі ДРАЦ «Надзея» выйшлі на акцыю салідарнасці. Акцыя супраць гвалту, фальсіфікацыі выбараў, адсутнасці даверу да ўлады. Работнікі цэнтра не змаглі застацца абыякавымі да падзей, якія адбываюцца ў краіне. Удзельнікі сталі перад уваходам з кветкамі, шарыкамі, плакатамі. Зачыталі зварот, пад якім падпісаліся ахвотныя.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**13,7%**

столькі школьнікаў у Беларусі ў 2019/2020 навучальным годзе вучыліся па-беларуску

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.08 | 20.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4583 | 2,4695 |
| Еўра | 2.8858 | 2,9485 |
| Злоты, 10 | 6.5607 | 6,7121 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3576 | 3,3713 |
| Грыўня, 100 | 8.9353 | 9,0293 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 12.08 | 19.08 |
| Еўра | 2.8600/2.9700 | 2.9000/3.0100 |
| Долар ЗША | 2.4500/2.5300 | 2.4600/2.5500 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 12.08 | 19.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 21,85 | 20,80 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | 7,60 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | 6,30 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | 16,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | 2,20 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | 0,90 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 0,90 |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | 0,90 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | 2,40 |
| Перац, 1 кг | 2,80 | 3,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | 5,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | 2,30 |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | 5,70 |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | 4,50 |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | 2,00 |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | 6,50 |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | 5,80 |
| Нектарыны, 1 кг | 5,50 | 4,50 |
| Персікі, 1 кг | 3,50 | 4,30 |
| Чарэшні, 1 кг | 5,50 | – |
| Яблыкі, 1 кг | 2,99 | 3,00 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 16,00 | 16,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## ДАІ шукае сведак ліпеньскай аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 ліпеня каля 10:20 кіроўца на аўтамабілі «Сітарэн-Ксантыя» ехаў па вуліцы Грамадоўскай у напрамку Валынца. Каля будынка «Белаграпрамбанка, што на Грамадоўскай, 9, машына наехала на пешахода на нерэгуляваным пешаходным пераходзе, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы Маладзечанскага РАУС **Дыяна Галуза**.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння ў пешахода цяжкія цялесныя пашкоджанні, па прыкмеце небяспекі для жыцця.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вуліца Тамары Дудко, 1 – 18 або па тэлефонах: **(8-0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Зяця падазраюць у забойстве цешчы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Раніцай 14 жніўня ў вёсцы Малашкі Красненскага сельсавета знайшлі труп сталай жанчыны. Пра гэта на лінію 102 у раённы аддзел міліцыі паведаміў зяць памерлай, 38-гадовы жыхар сталіцы. На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група.

Праваахоўнікі прыбылі на адрас і на прысядзібным участку ўбачылі цела 64-гадовай жанчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці. Труп пенсіянеркі быў у закапанай у зямлю бочцы. У двары прыватнага дома на траве былі зафіксаваны шматлікія сляды крыві, а таксама вырваныя жаночыя валасы.

У ходзе праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў сышчыкі ўстанавілі, што да забойства жанчыны датычны яе зяць. Высветлілася, што напярэдадні вечарам сваякі зладзілі сямейнае застолле з распіваннем алкаголю. У гэты час паміж зяцем і цешчай раптам узнік канфлікт, падставай для якога паслужылі два розныя погляды на выхаванне 16-гадовай падчарыцы.

Мужчына рукамі і нагамі пачаў збіваць пажылую жанчыну, цягаў яе за валасы па двары. Зламыснік нанёс каля 15 удараў па галаве і розных частках цела сваёй цешчы. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла на месцы.

Каб схаваць сляды злачынства, нежывое цела зламыснік запхнуў у бочку, адсекшы ў жанчыны ступню левай нагі. Мяркуюць, адсек сякерай, што была ў хляве. Пасля чаго п'яны мужчына сышоў спаць.

Падазраваны прызнаўся: абставіны вечара памятае цьмяна, ужо быў п'яны. Раніцай перад тым, як патэлефанаваць у міліцыю, мужчына ўжо паспеў пахмяліцца. На момант затрымання на месцы злачынства ён знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, як паказала медыцынская экспертыза – 2,4 праміле.

Цяпер мужчына ў ізалятары часовага ўтрымання. Па дадзеным факце следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па часткі 1 артыкула 139 КК Рэспублікі Беларусь «Забойства», санкцыя якой прадугледжвае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Ашмянца судзілі за хабар. Сем тысяч долараў не дапамаглі

**АШМЯНЫ**

У Ашмянах следчыя пачалі крымінальную справу па факце махлярства ў буйным памеры. Падазраванымі прызналі дзвюх сясцёр 46 і 48 гадоў, якія ў маі мінулага года падманулі 29-гадовага жыхара райцэнтра і завалодалі яго грашыма ў суме сямі тысяч долараў.

Устанавілі, што малодшая з падазраваных і пацярпелы сябравалі. Калі жанчына даведалася, што маладому чалавеку пагражае тэрмін за хабар, то прапанавала сваю дапамогу.

– Фігурантка распавяла, што знаёмая з работнікамі Вярхоўнага суда і Генеральнай пракуратуры. За ўзнагароду яны могуць паўплываць на рашэнне раённага суддзі ў змякчэнні прысуду і прызначэнні пакарання з мінімальным тэрмінам пазбаўлення волі. Пацярпелы пагадзіўся і перадаў жанчынам грошы, – распавялі ў Ашмянскім РАУС.

У выніку суд прысудзіў абвінавачанага да 5 гадоў і 6 месяцаў зняволення і накіраваў яго ў папраўчую ўстанову. Высветлілася, што атрыманую валюту сёстры нікому не перадавалі і патрацілі на ўласныя патрэбы.

Раней падазраваныя не прыцягваліся ні да адміністрацыйнай, ні да крымінальнай адказнасці.

**Паводле МУС.**




АМАП захоплівае жыхароў у Лебедзеве.

# «У бусіку амапаўцы сядзелі на нас і білі ўсю дарогу»

## Што адбылося з затрыманымі ў Лебедзеве

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Сяргея Бігеля затрымалі 12 жніўня ў Лебедзеве Маладзечанскага раёна. Ён быў адным з тых, хто ішоў адносіць калектыўны зварот аб спыненні беззаконня і гвалту старшыні Лебедзеўскага сельвыканкама Тамары Дудзіч.**

Ініцыяваў калектыўны зварот дэпутат Лебедзеўскага Савета дэпутатаў **Аляксандр Грымаць**.

Калі людзі ішлі да сельвыканкама, дарогу перакрыў бус, з якога выскачыла група супрацоўнікаў АМАПа і затрымала чацвярых чалавек. Журналісты «Рэгіянальнай газеты» прысутнічалі пры затрыманні. Адзін з затрыманых, Сяргей Бігель, сёння ў бальніцы. Ён падзяліўся, што адбылося з ім пасля затрымання. Ніжэй яго словы:

«Убачыў, што выбягае АМАП з бусіка. Адразу лёг на зямлю. Думаў, што біць не будуць, калі не буду аказваць супраціву.

Пачалі біць каля буса і працягнулі, ужо загрузіўшы нас. Сашу Грымаца было чуваць, што б'юць больш за ўсіх. Хоць ён і казаў, што дэпутат, у мінулым сам міліцыянер. Пасля яго слоў яны яшчэ больш яго збівалі.

Ехалі да РАУС так: мы скручаныя ў «барані рог» на падлозе, яны проста сядзелі на нас і білі ўсю дарогу. Мне адзін з іх пачаў кудлаціць валасы на галаве, а другі сказаў «давай падпалім». Пачалі шчоўкаць запальнічкай. Пачуўшы гэта, вызваліў руку і хацеў прыкрыць галаву, але нехта з іх схапіў за палец і пачаў выкручваць са словамі «чё ты закрываешся, животное».

> **Нас білі час ад часу, а Сашу Грымаця ўсю дарогу! Мне яго вельмі шкада, да слёз, няхай бы яны далі мне частку яго ўдараў. Прывезлі на ўнутраны двор РАУС. Выгрузілі і паклалі тварам у асфальт, пачалі зноў збіваць.**

Прыкрывацца не давалі, адбівалі нагамі рукі, калі прыкрываешся. Мяне білі двое, майго брата **Віцю** – адзін, **Віталіка Александровіча** – адзін, а Сашу Грымаця білі трое! Як крыўдна было за тое, што з ім робяць!

Мне адзін з амапаўцаў наступаў нагой на твар, пашкодзіў акуляры. Сказаў глядзець прама ў зямлю. Калі я трошкі павярнуў галаву ў другі бок, зноў наступіў нагой на твар.

> **Так мы ляжалі яшчэ гадзіны паўтары. Потым прыйшоў палкоўнік. Пачаў размаўляць з Грымацем і казаць яму, што раз перайшоў на іншы бок, то хай атрымлівае.**

«Это организаторы», – сказаў ён, паказаўшы на мяне і Сашу, кіўнуў галавой і пайшоў. Нас зноў пачалі лупіць. Па маёй спіне два разы нагамі нехта скокнуў. Потым пасля збіцця мне на спіне выцікралі майку, каб не было бачна сляду.

Калі Сашу вялі на допыт, ён два разы ўпаў, тады яго павялі пад рукі. Я, хоць і пабіты, пайшоў сам. Было цяжка дыхаць, балела галава.

Пасля допыту, калі мяне завялі ў так званы «стакан», папрасіў, каб мяне агледзелі медыкі. Медыкі, агледзеўшы, сказалі, што мне патрэбная тэрміновая шпіталізацыя. Было падазрэнне, што ў мяне зламаныя рэбры і крывацёк у галаву, бо зрэнкі розныя.

> **Міліцыянер пачаў ім казаць, што шпіталізацыя не трэба, напішыце, што ўсё добра. Яны сказалі, што не пагодзяцца, і папрасілі журнал на запіс гэтага выпадку.**

Толькі тады ён пагадзіўся мяне аддаць у бальніцу. Дзякую медыкам. Каб яны мяне не забралі, было б горш. А так толькі страсенне мазгоў, шматлікія гематомы, разбітае брыво».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Як прайшоў тыдзень мітынгаў і акцый салідарнасці ў рэгіёне

**Пасля разгону мірных пратэстаў сілавікамі пасля выбараў ініцыятыву па правядзенні акцый перахапілі жанчыны. Яны выстройваюцца ў ланцугі салідарнасці ад 12 жніўня, у гарадах рэгіёна праходзяць шматтысячныя мітынгі з патрабаваннямі дзеючай улады сысці ў адстаўку.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

Бацька з дачкой перад вялікім мітынгам 16 жніўня ў Маладзечне.

### Маладзечна

У Маладзечне 12 жніўня жанчыны арганізавалі акцыю салідарнасці супраць гвалту і фальсіфікацыі выбараў каля Успенскага сабора. Жанчыны стаялі з кветкамі, разам з дзецьмі. Аўтамабілі, якія праязджалі побач з месцам падзей, сігналілі ў падтрымку.

**Пасля акцыі стала вядома, што ў дварах затрымалі некалькіх чалавек супрацоўнікі АМАПа.**

13 жніўня жанчыны сабраліся ўжо ў абед, прайшліся ад вуліцы Францыска Скарыны да чырвонага касцёла. Ля чырвонага касцёла жаночая акцыя салідарнасці працягвалася да вечара. Дзяўчаты прыходзілі з плакатамі, на якіх былі патрабаванні спыніць гвалт, правесці новыя сумленныя выбары. Мужчыны не ўдзельнічалі ў акцыі, дапамагалі жанчынам вадой і ежай, а таксама прыносілі кветкі.

14 жніўня да акцыі салідарнасці далучыліся маладзечанскія медыкі і чыгуначнікі. Медыкі стаялі ў ланцугу насупраць дзіцячай паліклінікі, а чыгуначнікі правялі акцыю каля Дома культуры чыгуначнікаў. У гэты дзень на Цэнтральнай плошчы прайшоў пяцітысячны мітынг з бел-чырвона-белымі сцягамі.

На мітынгу да людзей выйшлі прадстаўнікі сфарміраванай ініцыятыўнай групы. Адзін з іх, **Валер Савіцкі**, агучыў патрабаванні: правядзенне новых сумленных выбараў, адстаўка Аляксандра Лукашэнкі і Цэнтрвыбаркама, рэабілітацыя ўсіх палітзняволеных і расследаванне гвалтоўных дзеянняў сілавых органаў.

15 жніўня маладзечанцы зноў сабраліся на Цэнтральнай плошчы. Яны прайшліся шэсцем ад плошчы да станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. Ля вуліцы Галіцкага, дзе знаходзіцца маладзечанскі РАУС, здарыўся інцыдэнт – частка людзей хацела прайсці па ёй. Аднак з будынка міліцыі выбеглі каля 50 амапаўцаў і вайскоўцаў, заблакіравалі дарогу. Натоўп пайшоў у абыход да парку, каб ускласці кветкі ля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі.

16 жніўня ў Беларусі праходзіў агульнанацыянальны марш за свабоду. Маладзечанцы таксама прынялі ў ім удзел. Людзі сабраліся каля Лядовага палаца і шэсцем прайшлі да Цэнтральнай плошчы.

**На падліках нашых карэспандэнтаў, у маршы ўдзельнічала не менш за восем тысяч чалавек.**

18 жніўня з маладзечанскага ізалятара часовага ўтрымання выпусцілі апошняга чалавека, якога затрымалі за ўдзел у мірных пратэстах пасля выбараў.

Да акцый салідарнасці далучыліся супрацоўнікі трох маладзечанскіх прадпрыемстваў – «Маладзечнамэбля», ММЦ і «Амкадор».

**Да людзей толькі аднойчы выходзілі прадстаўнікі ўлады, калі натоўп 14 жніўня прыйшоў да райвыканкама. Больш да людзей не выйшаў ні адзін з прадстаўнікоў улады.**

Старшыня райвыканкама **Юры Горлаў**, начальнік РАУС **Вадзім Прыгара**, пракурор **Уладзімір Дубоўскі**, кіраўнік раённага аддзялення следчага камітэта **Пётр Варачкоў** размаўлялі толькі з прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы.

18 жніўня ініцыятыўная група сустракалася з дэпутатам Нацыянальнага сходу ад Маладзечна **Людмілай Кананові**ч. Дэпутат сказала, што яна гатовая дапамагаць і працаваць са сваімі выбаршчыкамі, аднак адмовілася браць у сваю каманду юрыста ад ініцыятыўнай групы. На сустрэчы старшыня райвыканкама паклаў на стол раздрукоўку фотаздымкаў, на якіх Валер Савіцкі стаіць са сцягамі так званай «Данецкай народнай рэспублікі».

**Горлаў выказаўся, што ні ўлады, ні народ на плошчы не давяраюць Савіцкаму. Аднак праз некалькі гадзін на плошчы людзі наадварот выказалі давер Савіцкаму і вырашылі, што не час разбірацца ў поглядах людзей.**

### Смаргонь

14 жніўня смаргонцы, якія сабраліся ў цэнтры горада, запрасілі старшыню райвыканкама на сустрэчу 15 жніўня на прыступках райвыканкама у 19:00. Старшыня **Генадзь Харужык** выйшаў у прызначаны час, каб сустрэцца з выбаршчыкамі і абмеркаваць вынікі выбараў.

Як паведамляе смаргонскі актывіст, прадстаўнік Беларускага Хельсінскага камітэта **Аляксандр Дзергачоў**, старшыня выйшаў на сустрэчу ў суправаджэнні пракурора **Андрэя Клышэвіча** і начальніка РАУС **Аляксандра Клімянкова**.

– У сваім выступленні Генадзь Харужык назваў афіцыйныя вынікі выбараў па раёне – Лукашэнка – каля 67%, Ціханоўская – крыху больш 20%. Не пракаментаваў прыведзеныя факты пра тое, што на некаторых выбарчых участках не вывешвалі выніковыя пратаколы пасля падліку галасоў, – кажа Дзергачоў.

Па яго словах, старшыня спытаў, чаму тут тры святары касцёла. Адзін са святароў адказаў:

**– Таму што мы грамадзяне Рэспублікі Беларусь. І кропка.**

Смаргонцы пачалі скандзіраваць старшыні «Сыходзь!». І той сышоў.

Пракурор Андрэй Клышэвіч не пацвердзіў факты выкарыстання фізічнай сілы пры затрыманні ўдзельнікаў мірных акцый у Смаргоні пасля выбараў.

Начальнік Смаргонскага РАУС адмовіўся даць ацэнку дзеянням яго калег у Мінску.

Смаргонцы ўручылі мясцовым уладам зварот, у якім запатрабавалі адстаўкі прэзідэнта, старшыні ЦВК, міністра МУС, правядзення паўторных, але сумленных выбараў, гарантыі захавання працоўных месцаў за тымі, хто прымаў удзел у мірных акцыях пратэсту. Таксама патрабавалі публічнага разгляду заявы Алеся Дзергачова ў раённую камісію аб прадстаўленні вынікаў выбараў у раёне з разбіўкай па выбарчых участках.

### Вілейка

16 жніўня вілейчукі з розных мікраараёнаў горада сабраліся на плошчы, у цэнтры. Са сцэны зачыталі зварот да старшыні Вілейскага райвыканкама **Алега Бегунца**. Гаварылі пра парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзян, а таксама пра рэалізацыю свайго права на забастоўку, калі патрабаванні не будуць пачутыя.

У Вілейцы жыхары працягнулі ўдзельнічаць у акцыях салідарнасці на плошчы, стаялі ў ланцугах на вуліцы 17 Верасня і ў наступныя дні. Акцыі салідарнасці праводзілі ў іншых населеных пунктах рэгіёна. На іх выходзілі людзі з шарыкамі, кветкамі і плакатамі з патрабаваннямі да ўлады.

18 жніўня Вілейскі райвыканкам правёў прэсавую канферэнцыю для журналістаў, на якой распавёў пра паслявыбарныя падзеі ў горадзе. Падрабязней пра яе чытайце на сёмай старонцы.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета.

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце




**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21013, 1985 г.в.; матацыкл Днепр-11, 1989 г.в. Т. (8-044) 4860506.*

• Сітраен ZX, 1993 г.в., бензін 1,4. Т. А1 (8-044) 4522441.*

• Электраровар. Т.МТС (8-029) 8732315.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., ставілі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Еўрарамонт. Цана дамоўная. Т. (8025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра з мэбляй і тэхнікай у Маладзечне, 77/45,3/9,5 кв.м, прасторная, светлая, свежы рамонт. Т. (8-029) 5531397.*

• Дом у а/г Гальшаны па вул. Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900, (8-029) 6064594.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Маркуны, 28, Астравецкі раён. 10000 руб., торг. Т. (8029) 3681210.*

• Дом у в.Ракшыцы Ільянскага с/с, агульная плошча 49,4 кв. м, зямельны ўчастак 0,13 га, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-044) 7285930.

• Зруб. Т. (8-044) 4781306.*

• Участак 0,25 га са старым домам у в. Маліноўшчына Маладзечанскага раёна, вул. Лясная, 22. Т. (8-044) 4861632.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Малаўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• Работа са шклом (стекольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. ІП Ціхановіч П.П. УНП 691506875 Т.(8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**Музінструмент**

• Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казлы, дойная каза. Т. (8-029) 3597375.*

• Карова, 4 гады, чорна-пярэстая, пакрытая. Т. (8-029) 9803034.

**Іншае**

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ІНШАЕ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Аддам шчанятак у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.



Злева направа: начальнік Вілейскага РАУС Аляксандр Бяндасаў, галоўны пракурор Вілейшчыны Вадзім Шукрынаў, старшыня Вілейскага райвыканкама.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Пра выбары прэзідэнта, затрыманых і настроі ў грамадстве

## Вілейскі райвыканкам зладзіў прэс-канферэнцыю

**18 жніўня Вілейскі райвыканкам зладзіў прэс-канферэнцыю. На пытанні журналістаў адказалі старшыня райвыканкама Алег Бегунец, начальнік Вілейскага РАУС Аляксандр Бяндасаў і галоўны пракурор Вілейшчыны Вадзім Шукрынаў.**

ВІЛЕЙКА

### Алег Бегунец: Прадпрыемствы не бастуюць, але настрой насцярожаны

Старшыня Вілейскага райвыканкама Алег Бегунец расказаў, як працуюць апошнімі днямі вілейскія прадпрыемствы:

– Прадпрыемствы Вілейшчыны працуюць у штатным рэжыме. Забастовак не было. «Буддэталі» і мэблевая фабрыка выходзілі на акцыю ў перазменкі. Не думаю, што нехта захоча губляць прыбытак, спыняць канвееры і баставаць. У людзей настрой насцярожаны. На мінулым тыдні штодзённа ў мяне даходзіла да чатырох рабочых паездак па прадпрыемствах і ўстановах. Цяпер звычайна езджу два разы на дзень: адна сустрэча – на прадпрыемстве, другая – ва ўстанове.

### Афіцыйна: 21,02 працэнта – за Ціханоўскую, 73,33 – за Лукашэнку

Падчас учарашняй прэс-канферэнцыі журналісты «Рэгіянальнай газеты» спыталі ў старшыні Алега Бегунца пра колькасць галасоў на Вілейшчыне за кожнага кандыдата ў прэзідэнты.

Лічбы наступныя:

Яўка выбаршчыкаў на ўчасткі – **88,96 працэнта**. Усяго ў Вілейскім раёне **37 162** выбаршчыкі. На ўчасткі прыйшло **33 049.**

За **Андрэя Дзмітрыева – 381** чалавек, або **1,16 працэнта**;

За **Ганну Канапацкую – 307** чалавек, або **0,93 працэнта**;

За **Святлану Ціханоўскую – 6 948** чалавек, або **21,20 працэнта**;

За **Аляксандра Лукашэнку – 24 235** чалавек, або **73,33 працэнта**;

**За Сяргея Чэрачэня** – 361 чалавек, або 1,09 працэнта;

**Супраць усіх – 654** чалавекі, або **1,97 працэнта**.

Аляксандр Бяндасаў: «Да затрыманых сілу не прымянялі. АМАПа не было»

Па словах начальніка РАУС Аляксандра Бяндасава, 9 і 10 жніўня міліцыя затрымала 23 чалавекі. 11 з іх адпусцілі адразу пасля таго, як разабраліся. Яны на плошчы аказаліся выпадкова. Тых, хто застаўся, не вазілі ў РАУС у іншыя нарады. Усе былі ў Вілейскім.

На сёння выпусцілі ўсіх. Ні фізічную сілу, ні спецсродкі да затрыманых не прымянялі.

Галоўны пракурор Вілейшчыны **Вадзім Шукрынаў** пацвердзіў, што фізічных уздзеянняў на затрыманых не было. Ніхто не звяртаўся са скаргамі ў пракуратуру.

– АМАПа ў горадзе не было, – заявіў Аляксандр Бяндасаў. Хоць хадзілі чуткі, што амапаўцы занялі цэлы паверх у гасцініцы. Там жылі супрацоўнікі УУС Мінаблвыканкама. І прыехалі яны для таго, каб забяспечыць парадак на выбарчых участках.

Пасля 9 і 10 жніўня на акцыях нікога не затрымлівалі, адказаў начальнік міліцыі. Па яго словах, калі людзі будуць збірацца на акцыі і пры гэтым мірна сябе паводзіць, сілавікі іх не будуць чапаць.

**– Вы можаце пракаментаваць дзейнні вашых калег 9 і 10 жніўня ў Мінску і Маладзечне?**

– Каб каментаваць, трэба прысутнічаць на месцы. А мяне там не было. Таму і пракаментаваць не магу, – адзначыў начальнік Вілейскага РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Членаў камісіі вывелі праз чорны ўваход і развезлі на аўтобусе»

## Маладзечанка, якая працавала ў выбарчай камісіі, расказала пра 9 жніўня

**Маладзечанка Людміла Пашчук 9 жніўня была членам выбарчай камісіі на 10-м Елгаўскім участку, які месціўся ў гімназіі №6. Калі скончыліся выбары, усе члены камісіі выйшлі праз чорны ўваход і паехалі на спецыяльным аўтобусе ў суправаджэнні міліцыянера. А Людміла выйшла праз цэнтральныя дзверы і па Вялікім Гасцінцы ішла дамоў пешшу. Кажа, ёй не было чаго баяцца. Людміла зрабіла ўсё, каб галасы на ўчастку палічылі правільна.**




З Людмілай Пашчук мы сустрэліся ля Маладзечанскага РАУС, куды яна прыйшла падтрымаць затрыманых на мірных акцыях пратэсту ў Маладзечне.

МАЛАДЗЕЧНА

### Рашэнне падацца ў члены камісіі не ўхвалілі ні бацькі, ні сябры

– У члены выбарчай камісіі я падалася ад грамадзян. Маю кандыдатуру зацвердзілі. Відаць, спрацавала тое, што маю значны досвед працы ў выбарчых камісіях. Пяць год пасля заканчэння БДУ я была педагогам-псіхолагам у гімназіі №6. Там гэты досвед і набыла, – расказвае Людміла.

Па словах маладзечанкі, яе рашэнне падацца ў члены камісіі не ўхвалілі ні бацькі, ні сябры:

– Таму я вырашыла для сябе: зрабіць усё, каб на нашым участку галасы палічылі правільна. І каб мне не было сорамна глядзець у вочы бацькам і сябрам. Адчувала сваю адказнасць і перад людзьмі, якія пакінулі за мяне подпісы, вылучыўшы ў члены камісіі.

### Ніколі не бачыла такой яўкі, як 9 жніўня

Па словах Людмілы, 9 жніўня яўка на 10-м Елгаўскім была проста ўзорная. Як член камісіі, яна ўпершыню бачыла столькі людзей у дзень галасавання. Прыходзіла шмат знаёмых Людмілы: яе колішнія выпускнікі, іх бацькі. Многія, асабліва былыя вучні гімназіі, звярталіся да членаў камісіі, прасілі, каб лічылі правільна.

Пасля абеду маладзечанка паехала на галасаванне па кватэрах. Людміла не пыталася ў людзей, за каго яны галасуюць. Але некаторыя выбаршчыкі, што галасавалі дома, самі казалі: «Хай бы ўжо жанчына была».

Бліжэй да вечара на ўчастку людзей стала менш. Чаргі не было. На ўчастку прысутнічалі назіральнікі. Але незалежных сярод іх не было. Такіх прагналі на вуліцу. Роўна ў 20:00 урны зачынілі і пачалі лічыць галасы. Спачатку лічылі ў урне для надомнага галасавання, пасля – для датэрміновага. Апошнай сталі лічыць тую ўрну, у якой былі бюлетэні за 9 жніўня.

### Калі б усе галасавалі 9 жніўня...

– І вось, калі пачалі складаць тыя бюлетэні, што людзі запаўнялі менавіта ў дзень выбараў, стос за Ціханоўскую быў у некалькі разоў таўсцейшы, чым за Лукашэнку. І тады я зразумела, што павінна захаваць усе галасы за Ціханоўскую. Сказала: «Лічым праўдзіва». Забрала ўсе бюлетэні да сябе і пільна сачыла за імі. У імкненні да праўдзівасці мяне падтрымаў бацька майго выпускніка, які таксама быў членам камісіі, вылучаным ад грамадзян. Лічылі доўга, шмат разоў пералічвалі. Прапаноўвалі бюлетэні за Ціханоўскую даць палічыць камусьці іншаму, але я не пагаджалася. Калі ў нейкі момант каля 50 аркушаў з майго стоса пераклалі на крэсла, я адразу ж сказала, каб іх вярнулі. Разумела: нельга даказаць праўдзівасць або непраўдзівасць датэрміновага галасавання. Таму ўсё, што я магла зрабіць, – гэта захаваць кожны голас, аддадзены на ўчастку за Святлану Ціханоўскую, – прыгадвае Людміла.

Суразмоўца адзначае: яна не магла ведаць, ці была рада камісія такім яе паводзінам. Але людзі не супрацьўляліся.

– У выніковым пратаколе, з улікам датэрміновага галасавання, вынікі атрымаліся такія: 880 – за Лукашэнку, 597 – за Ціханоўскую. Так, Ціханоўская не перамагла. Але ў яе вельмі добры вынік, не 10 працэнтаў. Я перакананая: калі б усе галасавалі ў дзень выбараў, была б адназначная перамога Святланы Ціханоўскай, – дзеліцца Людміла.

### Амаль усе былыя калегі-педагогі адпісаліся ў сацсетках

Па словах суразмоўцы, увечары пасля працы на выбарчым участку за ўсімі членамі камісіі прыехаў аўтобус з міліцыянерам, каб у мэтах бяспекі развезці іх.

– Але я была ў стане такой эйфарыі ад таго, што зрабіла ўсё, што змагла. Я выйшла праз цэнтральны ўваход. Міліцыянер пераконваў, што не варта ісці адной, што мяне можа чакаць небяспека. Але я не пагадзілася. Не разумела, што мне можа пагражаць, калі я па максімуму выканала сваю місію. Я спакойна ішла па вуліцы свайго горада, а мае бацькі ўжо былі на плошчы. Прыйшла і ноччу на эмоцыях напісала пост у інстаграме пра тое, як захавала 597 галасоў на сваім участку. Шматлікія знаёмыя тэлефанавалі, дзякавалі, падтрымлівалі. А вось з былых калег з шостай гімназіі са словамі падзякі адгукнулася толькі адна. Іншыя адпісаліся ад мяне ў сацсетках. Але я не думаю, што гэта мая самая вялікая праблема. Куды больш важна, што мне цяпер не сорамна глядзець у вочы сваім бацькам, сябрам і колішнім выпускнікам шостай гімназіі, – адзначыла Людміла.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Медыкі выйшлі на мірную акцыю супраць гвалту і фальсіфікацыі выбараў

**14 жніўня каля 18:00 больш за сотню медыкаў выйшла на скрыжаванне ля дзіцячай паліклінікі ў Маладзечне. На іх плакатах былі лозунгі супраць гвалту і за справядлівыя выбары.**

На пытанне, чаму ён сёння тут, адказаў участковы доктар-педыятр дзіцячай паліклінікі Ілля Монід:

– Я катэгарычна супраць таго гвалту, які адбываўся апошнімі днямі ў Жодзіне, на Акрэсціна. А яшчэ я лічу, што на выбарах у мяне скралі мой голас. І не толькі ў мяне. Мы за мірны дыялог, за мірнае вырашэнне пытання. Прыйшоў сюды, каб выказаць сваю салідарнасць з пацыентамі, каб паказаць, што медыкі з народам. Уся наша дзіцячая паліклініка – з намі.

– Мы – за дэмакратыю, за свабодныя выбары. Хочам талковага прэзідэнта, які выведзе нас з эканамічнай ямы. Проста хочам жыць, як усе цывілізаваныя людзі, – дадае медсястра **Руслана Мікалаеўна**.

Медыкі таксама сказалі, што іх начальства ў курсе акцыі, але захоўвае нейтралітэт.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




Медыкі расказалі, чаму выйшлі на акцыю.

## Беларусь 1

**6.20** Існасць [СТ].

**6.45, 19.35, 21.40** Х/ф **«ОШИБКА МОЛОДОСТИ».**

**8.30** Один день.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** Смысл жизни. Петр Прокопович.

**9.45** Здоровье [СТ].

**10.35** Дача.

**11.10, 12.10** Х/ф **«КОШМАРНЫЙ ДИРЕКТОР, ИЛИ ШКОЛА № 5».**

**15.15** Краіна.

**15.45, 19.10** Х/ф **«ЦВЕТОЧНОЕ ТАНГО».**

**21.00** Панорама.

**23.55** Х/ф **«КОТОВ ОБИЖАТЬ НЕ РЕКОМЕНДУЕТСЯ».**

**1.35** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 21.05** Телебарометр.

**9.30** Х/ф **«МОАНА».**

**11.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**11.55** Камень, ножницы, бумага.

**12.25** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**13.15** Х/ф **«ПРЕДЛОЖЕНИЕ».**

**15.05** «Когда мы дома». Скетчком.

**15.35** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.20** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**19.00** Х/ф **«ТРОН: НАСЛЕДИЕ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** Приключенческий экшн «Мстители: Война бесконечности».

**23.40** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 15.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 15.40** «Гэты дзень».

**8.25** «Зямля Саннікава». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Беларуская кухня». Малочны суп з агароднінай.

**10.30** «Народны майстар». Майстар па вырабу маляваных дываноў.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.25** «Высоцкі. Дзякуй, што жывы». Мастацкі фільм.

**14.55** «Навукаманія».

**15.45** «Аперацыя "Тушонка"». Мастацкі фільм.

**17.30** «Камертон». Пісьменнік Уладзімір Ліпскі.

**18.00** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**18.35** «Пад каменным небам». Мастацкі фільм.

**20.05** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — краязнаўца, настаўнік Мётчынскай сярэдняй школы, арганізатар фестывалю «Мядоцкі край і яго таленты», кіраўнік літаратурнага музея «Літаратурны космас Мётчы» Уладзімір Лайкоў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм [СТ].

**23.20** «Культурны рэпартаж».

**23.35** «Спадчына». Дакументальны фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**7.45** Премьера ОНТ: «Беларусь. Геаграфія з біяграфіяй».

**7.50** «Петр Тодоровский. Жизнь забавами полна».

**9.10** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**

**10.35** «Видели видео?».

**11.20** Х/ф **«СПОРТЛОТО-82».**

**13.00** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.

**14.15** Х/ф **«БЕРЕГИСЬ АВТОМОБИЛЯ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.25** «Сегодня вечером».

**18.15, 21.35** «Сегодня вечером» Продолжение.

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Охраняя Родное».

**0.00** Х/ф **«ВОЕННО-ПОЛЕВОЙ РОМАН».**



## СТВ

**6.15, 1.20** «Пища богов».

**7.55** «Анфас».

**8.15** «Самая полезная программа».

**9.05** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.05, 13.40** Т/с **«СМЕРШ. ДОРОГА ОГНЯ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**14.40, 16.40** Т/с **«СМЕРШ. КАМЕРА СМЕРТНИКОВ».**

**18.15, 20.05** Т/с **«СМЕРШ. УМИРАТЬ ПРИКАЗА НЕ БЫЛО».**

**19.55** «СТВ-спорт».

**22.05** «Территория заблуждений».

**23.40** «Секретные территории».

## Мир

**5.00, 7.50** Мультфильмы.

**5.50, 0.25** Х/ф **«САЛОН КРАСОТЫ».**

**7.20** «Секретные материалы».

**8.35** «Наше кино. История большой любви».

**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.10, 3.30** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС, ДО СВИДАНИЯ!».**

**13.15, 16.15, 19.15** Х/ф **«ГАРДЕМАРИНЫ, ВПЕРЕД!».**

**19.40** Х/ф **«ЗИТА И ГИТА».**

**22.30** Х/ф **«ОХРАННИК ДЛЯ ДОЧЕРИ».**

**1.50** Х/ф **«СВЕТЛЫЙ ПУТЬ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.20** Сегодня. Главное.

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «50 рецептов первого».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «Города Беларуси».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Главная дорога.

**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**11.40** Квартирный вопрос.

**12.35** «НашПотребНадзор».

**13.20** «Поедем, поедим!».

**14.10** Истории спасения.

**14.35** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ ПЁС».**

**16.25** «Секрет на миллион». Лолита Милявская.

**18.05** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.10** Х/ф **«ПЛЯЖ».**

**23.30** «Крутая История».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «По секрету всему свету».

**7.25** Х/ф **«ЧУЖИЕ ПИСЬМА».**

**9.10** Х/ф **«МЕЧТЫ ИЗ ПЛАСТИЛИНА».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Наше дело».

**12.00** «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.

**13.05** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**14.10** Х/ф **«СЮРПРИЗ ДЛЯ ЛЮБИМОГО».**

**16.00** Х/ф **«НЕТАЮЩИЙ ЛЁД».**

**18.00** ПРЕМЬЕРА. Большой концерт «Всем миром, всем народом, всей землёй!».

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.50** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.35** Х/ф **«СВЯТАЯ ЛОЖЬ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.40, 2.35** 12 лет рабства. **9.00** Шанхайские рыцари. **11.00** Всё или ничего. **13.00** Каратэ-пацан. **15.25** Смурфики. **17.10** Смурфики 2. **19.00** Охотники за привидениями. **20.50** Охотники за привидениями 2. **22.45** Остров головорезов. **0.50** Идеальный побег. **5.00** Что скрывает ложь.

### TV1000 ACTION

**6.30** Соломон Кейн. **8.10** Око за око. **10.00, 2.15** Соната. **11.25** Дальше по коридору. **13.00, 3.30** Глаз. **14.35** Великий уравнитель. **16.55** Власть страха. **19.00, 5.10** Старски и Хатч. **20.35** Из Парижа с любовью. **22.05** Криминальное чтиво. **0.40** Геракл: Начало легенды.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.10** Училка. **9.45** Водитель для Веры. **11.50** Волкодав из рода Серых Псов. **14.20** Яга. Кошмар тёмного леса. **16.00** Кровавая леди Батори. **18.00** Вурдалаки. **19.25** Пятница. **21.00** Шпион. **23.00** Духless. **1.00** Час пик. **3.10** Адмиралъ. **5.30** Исповедь содержанки.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00** «Полный порядок». **10.30** Х/ф **«БАБУЛЯ». 12.15** Х/ф **«ТРЕВОЖНЫЙ ВЫЗОВ». 14.15** Х/ф **«ИДЕНТИФИКАЦИЯ БОРНА». 16.45** Х/ф **«ПРЕВОСХОДСТВО БОРНА». 19.00** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА». 21.15** Х/ф **«СЕКРЕТНЫЙ АГЕНТ». 23.15** Х/ф **«ЭЛЬ КУКУЙ». 1.15** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ-2». 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АПОСТОЛ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕВЯТЬ МЕСЯЦЕВ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ТАКСИ ДЛЯ АНГЕЛА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 3.10** Х/ф **«ВОРЧУН». 5.10** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 7.10** Х/ф **«НЕСМОТРЯ НИ НА ЧТО». 9.20** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ». 11.05** Х/ф **«ЛЕТО. ОДНОКЛАССНИКИ. ЛЮБОВЬ». 13.00** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ». 15.20** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ 2». 17.40** Х/ф **«ОБМАНУТЬ ВСЕХ». 19.30** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 21.25** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ ДЕВУШКИ». 23.05** Х/ф **«100 ВЕЩЕЙ И НИЧЕГО ЛИШНЕГО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 2.00, 3.00, 3.45, 4.35** Т/с **«ДЕЛО ГАСТРОНОМА №1». 5.20, 6.10, 7.00, 8.00** Т/с **«ТРИ ДНЯ ЛЕЙТЕНАНТА КРАВЦОВА». 8.55, 9.55, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.05, 17.05, 18.05** Т/с **«МОСГАЗ». 19.05, 20.05, 21.05, 22.05, 23.05** Т/с **«ПАЛАЧ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **12.00** Х/ф **«ВЫПУСКНОЙ». 13.45** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ». 15.35** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ 2: ТОЛЬКО ВПЕРЕД». 17.40** Фэнтези «ТЁМНАЯ БАШНЯ». **19.30** Х/ф **«СМЫВАЙСЯ». 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Фэнтези «БОГИ ЕГИПТА». **0.35** Х/ф **«ВЕЛИКИЙ УРАВНИТЕЛЬ 2». 2.45** Шоу «САРАНХЭ». **3.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55, 9.20** Футбол. Лига чемпионов. 1/2 финала. **8.50** Фактор силы. **11.20** Вот это спорт! **11.35** Футбол. Лига Наций. Превью. **12.05** Большой спорт. **12.50** Хоккей. Кубок Беларуси. 1/2 финала. **15.10** Теннис. WTA. Цинциннати. Финал. **16.50** Спорт-центр. **19.05** Тренировочный день. **19.35** Мини-футбол. Суперкубок Беларуси. В перерыве Спорт-центр. **21.35** Гандбол СЕХА-Газпром Лига. 1/8 финала. Вардар (Северная Македония) – Нексе (Хорватия). **23.15** Футбол. Лига чемпионов.

### EUROSPORT

**0.00, 6.45** Теннис. US Open-2019. Женщины. Финал. С. Уильямс – Андрееску. **1.00** Покер. Partypoker Millions. **2.00** Мотогонки. FIM Endurance-2019. Сепанг. **4.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2018. Обзор. **5.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. Обзор. **6.00** Теннис. US Open-2019. Микст. Финал. **8.30, 13.45** Велоспорт. «Тур де Франс». Презентация. **9.30** Велоспорт. «Тур де Франс». La Course-2019. **11.05, 19.15** Велоспорт. «Тур де Франс». Женщины. La Course. **14.55, 21.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 1-й этап. **20.00, 23.00** Велоспорт. «Тур Венгрии». 1-й этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Сравнительный тест. **6.30, 9.30, 11.55, 14.20, 17.35, 22.40, 0.35, 3.00** Итоговые новости. **6.40** Наезд! **6.50, 7.30, 8.10, 16.45, 17.55, 18.40** За рулем каждый день. **7.15, 7.55, 17.15, 18.25** Электродрайв. **8.40, 9.45** Резьба по стали. **9.10** Тест с дядей Ваней. **10.20** Мотогараж. **10.50** Проверка на дороге. **11.10** Вторичка. **11.25, 19.20, 22.55, 3.15** Поехали на рыбалку! **12.15, 20.10, 23.45, 4.05** Трасса А2. **13.00, 0.50** Испытание на прочность. **13.35, 1.20** Все включено. Эксклюзив. **13.50, 1.35** Тест на «Драйве»(16+). **14.40, 2.05** Тест на «Драйве». **15.10, 21.00, 4.50** 9 злобных водителей. **15.45** Вечер с Пикуленко. **16.30, 22.25** Эконом-тест. **19.10** Автолайф. **19.50, 23.25, 3.45** Авто: вторые руки. **21.35** Обновление. **21.45, 5.20** Байки про байки. **2.30** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.25, 9.15** Чудовищный карп. **10.05** Приключения на рыбалке. **10.55, 11.45** Переделка старья. **12.30, 13.20, 14.05, 18.55, 0.50, 1.35, 2.25, 3.10, 4.00** Австралийские золотоискатели. **14.50, 15.15** Нефритовая лихорадка. **15.40, 18.10** Поисковая команда в Австралии. **16.25, 19.40, 0.00** Могучие реки. **17.20** Строительство гигантов. **20.30, 21.25, 22.15, 23.05** Речные чудовища. **4.45** Выживание в лесу. **5.35** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.10, 7.00, 1.50, 2.40** Музейные тайны. **7.45, 8.50** Владыки Тихоокеанского побережья. **9.55, 11.05, 12.10** Забытые королевства Центральной Америки. **13.15, 14.05, 15.00, 15.50, 16.40, 17.35** Боевые корабли. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.30** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Запретная история. **20.50, 22.00** История христианства. **23.05** Смертоносный интеллект. **23.55, 0.55** Тридцатилетняя война – Железный век. **3.30, 4.20, 5.10** Карты убийства.

### NATURE

**6.00, 3.35, 4.00** Уличный ветеринар. **6.30, 7.15, 8.00, 8.45, 9.30, 10.15, 2.45** Ветеринар из Йоркшира. **11.00, 11.25, 11.50, 12.15, 12.45** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **13.10, 14.00** Выживание в дикой природе. **14.50** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **15.40, 20.15** Дикая Канада II. **16.40, 17.35, 18.30** Дикая Латинская Америка. **19.25, 23.35** Невероятные встречи с животными. **21.20** Рассказы о бурях. **22.05, 22.50, 1.10, 4.30, 5.15** Мутации погоды. **0.25** Хищные питомцы. **1.55** Анатомия крупнейших животных.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.10** Научные глупости. **6.50, 7.40, 8.30** Авто-SOS. **9.20, 10.15, 11.10** Осушить океан. **12.05, 12.55** Грядет шторм. **13.50, 14.40, 15.35** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.30, 17.20, 18.10** Создание Райского острова. **19.05, 20.00, 21.00, 21.55** Деревянная кожа. **22.55** Небесные герои: Непобедимая 8-я воздушная армия. **23.40** Непотопляемый: Потерянный японский корабль. **0.30** Последние тайны Третьего рейха. **1.15, 2.00, 2.45** Тюремные трудности. **3.35, 4.20** Космос: возможные миры. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 6.15, 7.00, 7.15, 8.35, 8.50, 9.40, 9.50, 10.40, 10.55, 11.45, 12.30, 12.50, 13.40, 13.55, 14.45, 15.30, 15.50, 16.40, 16.55, 17.45, 18.30, 18.45, 19.35, 19.50, 20.40, 20.55, 21.45, 21.55, 22.45, 23.35, 23.50, 0.45, 1.35, 1.45, 2.35, 2.45, 3.35, 3.50, 4.35, 4.50, 5.35, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **6.30, 7.25, 9.05, 10.05, 11.10, 12.00, 13.05, 14.10, 15.00, 16.05, 17.10, 18.00, 19.00, 20.05, 21.10, 22.15, 23.00, 0.10, 1.00, 2.00, 3.00, 4.05, 5.05** Сомы Европы. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.20, 18.15, 22.05, 2.15** Домашняя экспертиза. **6.30, 14.50, 18.45, 22.35, 2.40** Деревянная Россия. **7.00, 11.10, 15.20, 19.15, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.50, 19.45, 23.40, 3.55** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.20, 20.15, 0.10, 4.25** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.40, 0.30, 4.40** Про грибы. **8.35, 12.45, 16.55, 20.50, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 17.15, 21.05, 1.00, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.30, 17.40, 21.35, 1.30, 5.35** ТОП-10. **10.35** Дачных дел мастер. **14.00** Варенье. **20.30** Забытые ремесла. **2.00** Закуски.

## Беларусь 1

**6.35** Х/ф **«ОШИБКА МОЛОДОСТИ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.05** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПРОСТАЯ ДЕВЧОНКА».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день.

**16.10** Судьба гигантов.

**16.45, 19.10** Х/ф **«ЗЛАЯ СУДЬБА».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ЦВЕТОЧНОЕ ТАНГО».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 19.40** Телебарометр.

**9.30** «Супержена». Реалити-шоу.

**10.20** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**11.40** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**12.30** Х/ф **«ТРОН: НАСЛЕДИЕ».**

**14.35** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.15** Х/ф **«СПАСАТЕЛЬ».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«АСТРАЛ 4: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ».**

**23.10** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**0.10** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.55, 18.40** Навіны культуры.

**8.20, 14.15** «Гэты дзень».

**8.25** «Котёнок по имени Гав», «Снеговик-почтовик». Мультфільмы.

**8.50** «Пунсовая кветачка». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Цатні.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Пад каменным небам». Мастацкі фільм.

**13.15** «Чорны крумкач». Дакументальны фільм. Рэжысёр — Анатоль Алай.

**14.20** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм [СТ].

**16.40** «Народны майстар». Разьбяр Валерый Мінкоў.

**17.05** «Зямля Саннікава». Мастацкі фільм [СТ].

**19.00** «Вяртанне да жыцця». Дабрачынны вечар у Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Прамая трансляцыя.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Высоцкі. Дзякуй, што жывы». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Георгий Данелия. Небеса не обманешь»(16+).

**8.05** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**

**11.30** «Видели видео?».

**12.55** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.05, 16.20, 18.15** Т/с **«А У НАС ВО ДВОРЕ».**

**18.35** «Три аккорда».

**20.00** «Контуры».

**21.20** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА, ИЛИ НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА».**

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.10** Х/ф **«АФОНЯ».**

## СТВ

**6.00, 23.55** «Пища богов».

**7.40, 20.50** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС, ДО СВИДАНИЯ!».**

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.35** «Еще дешевле».

**7.00, 2.10** Х/ф **«САДКО».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Сказки А. Птушко.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 4.35** Т/с **«ТАК НЕ БЫВАЕТ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.10, 1.00** Х/ф **«ГАРДЕМАРИНЫ, ВПЕРЕД!».**

**3.35** Х/ф **«СВАДЬБА».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «50 рецептов первого».

**7.20** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.30** «Дачный ответ».

**12.30** «НашПотребНадзор».

**13.20** «Поедем, поедим!».

**13.55** Истории спасения.

**14.25** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ ПЁС».**

**16.15** «Следствие вели…».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** Ты не поверишь!

**21.05** «Звезды сошлись».

**22.20** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СВЯТАЯ ЛОЖЬ».**

**10.25, 11.30** Х/ф **«ХОЧУ БЫТЬ СЧАСТЛИВОЙ».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**14.20, 21.15** Т/с **«ЛОВУШКА ДЛЯ КОРОЛЕВЫ».**

**23.00** «В людях».

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.20** Голодные игры. **8.40** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **11.05** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **13.10** Остров головорезов. **15.15** Охотники за привидениями. **17.05** Охотники за привидениями 2. **19.00** Чикаго. **20.55** Мамма MIA! **22.55** Свадебный Переполох. **0.45** Двухсотлетний человек. **2.55, 5.00** Она.

### TV1000 ACTION

**7.20** Боги Египта. **9.40** Война Богов: Бессмертные. **11.25** Из Парижа с любовью. **13.00** Криминальное чтиво. **15.40** Старски и Хатч. **17.20** Призрачный патруль. **19.00** Миссия «Серенити». **21.00** Чёрная дыра. **22.45** Сокровище Амазонки. **0.25** Шесть демонов Эмили Роуз. **2.20** Уиджи: Доска Дьявола. **3.40** Женщина в чёрном. **5.10** Титан.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.10** Последнее испытание. **9.45**

### ПЯТНИЦА

. **11.15** Шпион. **13.15** Адмиралъ. **15.30, 3.40** Час пик. **17.30** Дневник мамы первоклассника. **19.00** Выкрутасы. **20.40** Временные трудности. **22.15** Духless 2. **0.10** Тёмный мир. **2.00** Тёмный мир: Равновесие. **5.30** История одного назначения.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.45** «Рисуем сказки». **9.00** «Новый день». **9.30** «Погоня за вкусом». **10.30** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ-2». 13.00** Х/ф **«ПРЕСЛЕДОВАНИЕ». 14.45** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА». 17.00** Х/ф **«СЕКРЕТНЫЙ АГЕНТ». 19.00** Х/ф **«ВОЙНА». 21.15** Х/ф **«ЯДОВИТАЯ РОЗА». 23.15** Х/ф **«ТРЕВОЖНЫЙ ВЫЗОВ». 1.00** Х/ф **«ЭЛЬ КУКУЙ». 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 11.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АПОСТОЛ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕВЯТЬ МЕСЯЦЕВ». 14.00, 22.00** Т/с **«ТАКСИ ДЛЯ АНГЕЛА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 6.00** Т/с **«БИТВЫ БОЖЬИХ КОРОВОК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.15** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ». 3.00** Х/ф **«СТАТУС:** Х/Ф **«. 4.45** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ». 6.35** Х/ф **«ИСПОВЕДЬ НЕВИДИМКИ». 8.30** Х/ф **«ОФИСНЫЙ БЕСПРЕДЕЛ». 10.10** Х/ф **«СКАМЕЙКА ЗАПАСНЫХ». 11.45** Х/ф **«2+1». 14.00** Х/ф **«УКРАДИ МОЮ ЖЕНУ». 15.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ». 17.30** Х/ф **«ТАКСИ 5». 19.30** «Национальная безопасность». **21.05** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 23.15** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.10, 5.40, 6.40, 7.45, 8.45, 9.45, 10.45, 11.50, 12.50, 13.50** Т/с **«ПАЛАЧ». 2.15, 3.55, 4.45** Т/с **«СОБИРАТЕЛЬ ТЕЛ». 14.50** Т/с **«ШЕРЛОК: СОБАКИ БАСКЕРВИЛЯ». 16.40** Т/с **«ШЕРЛОК: РЕЙХЕНБАХСКОЕ ПАДЕНИЕ». 18.30** Т/с **«ШЕРЛОК: ПУСТОЙ КАТАФАЛК». 20.20** Т/с **«ШЕРЛОК: ЗНАК ТРЕХ». 22.10, 23.05** Т/с **«ТРИ ДНЯ ЛЕЙТЕНАНТА КРАВЦОВА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«КОРОЛЬ САФАРИ». 14.25** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ДА ПРИДЁТ СПАСИТЕЛЬ». 16.40** Х/ф **«МИЛЛИАРД». 18.40** Х/ф **«ИНОПЛАНЕТНОЕ ВТОРЖЕНИЕ: БИТВА ЗА ЛОС-АНДЖЕЛЕС». 21.00, 0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.25** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.20** «ПРОСТО КУХНЯ». **1.50** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.40** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Азбука спорта. **7.10** Мини-футбол. Суперкубок Беларуси. **9.10** Хоккей. Кубок Беларуси. 1/2 финала. **11.10** Гандбол СЕХА-Газпром Лига. 1/8 финала. Вардар (Северная Македония) — Нексе (Хорватия). **12.50** Хоккей. Кубок Беларуси. Матч за 3-е место. **15.20** Гандбол. Кубок Беларуси. Женщины. Финал. **17.00** Спорт-центр. **19.30** Фактор силы. **20.00** Пит-стоп. **20.30** Игры «на вырост». **21.05** Тренировочный день. **21.30** Футбол. Лига чемпионов. Финал.

### EUROSPORT

**0.00** Супербайк. Этап чемпионата мира Арагон. Суперпоул. **0.30** Супербайк. Этап чемпионата мира Арагон. Первая гонка. **1.00, 4.00, 10.30, 12.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 1-й этап. **2.30** Велоспорт. Чемпионат Европы. Микст. Гонка на время. **6.00** Теннис. US Open-2019. Женщины. Пары. Финал. **7.00** Теннис. US Open-2019. Мужчины. Финал. Медведев — Надаль. **9.30** Велоспорт. «Тур Венгрии». 1-й этап. **13.15** Автогонки. Суперкубок Porsche. Спа. **14.15, 21.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 2-й этап. **19.25** Велоспорт. Чемпионат Европы. Плуе. Мужчины. Групповая гонка. **20.00, 23.00** Велоспорт. «Тур Польши». 2-й этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Сравнительный тест. **6.30** Тайный покупатель. **6.45, 7.30, 17.10, 18.00** Возвращение легенды. **7.15, 8.15, 8.30, 17.40, 18.30, 18.50** Электродрайв. **7.55, 10.45, 13.30, 16.55, 19.10, 23.40, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **8.45** Резьба по стали. **9.20** Тест с дядей Ваней. **9.35** Мотогараж. **10.10, 10.25** Мото тест-драйв. **11.00** Проверка на дороге. **11.15** Вторичка. **11.35, 19.25, 22.50, 3.10** Поехали на рыбалку! **12.05, 12.25, 19.55, 23.20, 3.40** Авто: вторые руки. **12.40, 20.10, 0.05, 4.05** Трасса А2. **13.45, 0.55** Испытание на прочность. **14.20** Все включено. Эксклюзив р. **14.35, 15.10, 1.45, 2.10** Тест на «Драйве». **15.40, 21.00, 4.50** 9 злобных водителей. **16.15** Байки про байки. **21.35** Наезд! **21.45, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.30** Эконом-тест. **23.55** Обновление. **2.40** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50** Речные чудовища. **8.45** Могучие реки. **9.35, 10.00, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00** Нефритовая лихорадка. **10.25** Строительство гигантов. **11.15, 21.20** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35** Австралийские золотоискатели. **22.05, 22.55** Австралийские охотники на лобстеров. **1.25, 2.10, 2.55, 3.40, 4.25** Деревенский дом. **5.10** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.00** Невероятные изобретения. **6.30, 7.15, 11.50, 12.40, 13.25, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 1.30, 2.15** Музейные тайны. **8.05, 9.00, 9.55, 10.55** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **17.25** Поля сражений. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.30** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Древние суперстроения. **21.00** Монархи: забытые письма. **21.55, 22.45, 3.05, 3.55, 4.50** Карты убийства. **23.30, 0.30** Тридцатилетняя война — Железный век.

### NATURE

**6.00, 4.05** Уличный ветеринар. **6.20** Мир природы — крылатые охотники на обезьян. **7.15** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **8.00, 8.55, 9.50** Тайная жизнь слонов. **10.45, 11.35, 12.25, 13.15, 14.10** Загадочная планета. **15.00, 18.40** Дикая Канада II. **16.05** Эпический Йеллоустоун. **16.55** Великая американская оттепель. **17.50** Природа Америки: времена года. **19.45** Дикая Латинская Америка. **20.40** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **21.30, 22.20, 23.10** Выживание в дикой природе. **0.05** Невероятные встречи с животными. **0.50** Хищные питомцы. **1.40, 4.30, 5.15** Мутации погоды. **2.25** Анатомия крупнейших животных. **3.15** Ветеринар из Йоркшира.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.15** Научные глупости. **6.45, 7.40, 8.30, 2.15, 3.00** Авто-SOS. **9.20, 10.10** Экстремальный экспресс. **11.00, 11.55, 12.45** Сокровища Тутанхамона. **13.35, 14.30, 15.20** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.15** Диана: Утерянные кадры. **18.15, 18.40** Сделать за один день. **19.05, 20.05, 21.00, 22.00** Деревянная кожа. **22.55, 23.50** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **0.45, 1.30** Космос: возможные миры. **3.45, 4.30** Секретные материалы древности. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 17.55, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.25, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.25, 16.25, 20.30, 0.30, 4.35** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55, 12.50, 16.55, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.20, 17.25, 21.35, 5.35** Донка против фидера. **11.20, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **11.50, 15.55, 20.00** Рыболовная Россия. **14.50, 18.55** Рыболовы. **21.00** На рыбалку с охотой. **1.35** Россия заповедная. **2.55** Дед Мазай и зайцы.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.20, 18.15, 22.05, 2.15** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.50, 18.45, 22.40, 2.40** Деревянная Россия. **7.00, 11.10, 15.20, 19.15, 23.10, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.50, 19.45, 23.40, 3.55** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.20, 20.15, 0.10, 4.25** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 0.30** Про грибы. **8.35, 12.45, 16.55, 20.50, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 17.15, 21.05, 1.00, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.30, 17.40, 21.35, 1.30, 5.35** ТОП-10. **14.00** Варенье. **16.40, 20.30, 4.40** Забытые ремесла. **2.00** Закуски.

# Якія песні былі гімнамі Беларусі ў розныя часы

**Гімн побач з гербам і сцягам з'яўляецца дзяржаўным сімвалам краіны. Прапануем прыгадаць, якія песні ў розныя часы былі беларускімі гімнамі.**

### «Багародзіца» – не малітва. А старажытны гімн

«Багародзіца» – гімн Вялікага Княства Літоўскага ў 14–18 стагоддзях і найстарэйшы польскі рэлігійны гімн. Ад 15 стагоддзя называўся таксама «Песняй Айчыны» і ўжо тады лічыўся старадаўнім. «Багародзіцу» спявалі пры каранацыях, прыдворных цырымоніях і іншых урачыстасцях, перад вайсковымі бітвамі, пры асвячэнні мошчаў святых, на пахаваннях дзяржаўных асоб.

«Багародзіцу» адносяць да гімнаў, а не да малітваў, бо твор мае вершаваны тэкст. Найстарэйшы запіс тэксту з мелодыяй зроблены ў 1407 годзе.

Ужытыя ў тэксце архаізмы кажуць пра тое, што гімн мог узнікнуць у 13 стагоддзі. «Багародзіца» з'яўляецца арыгінальным творам. Даследчыкі не адшукалі адпаведнікаў у грэчаскай, лацінскай, чэшскай і нямецкай літаратурах.

Упершыню ў крыніцах «Багародзіца» згадваецца польскім гісторыкам 15 стагоддзя **Янам Длугашам**. У сваёй Хроніцы ён распавядае, што на пачатку бітвы пры Грунвальдзе польска-літоўскае войска заспявала «Багародзіцу» і, патрасаючы дзідамі, рушыла на ворага.

У канцы 14 стагоддзя «Багародзіца» разам з каралём Ягайлам і яго прыбліжанымі трапіла ў Польшчу. У 15 стагоддзі гімн ужо быў шырокавядомы ў Польшчы, стаўшы вайсковым і рэлігійным гімнам Рэчы Паспалітай.

Гімн прызначаны для выканання мужчынскім хорам ва ўнісон ці галасам.

### Тэкст гімна БНР напісаў настаўнік, што працаваў у Радашкавічах

Песня «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» таксама вядомая як «Ваяцкі марш». Тэкст быў упершыню апублікаваны 30 кастрычніка 1919 года ў газеце «Беларусь» пад назвай «Ваяцкі гімн». Аўтар тэксту – дэлегат Першага Усебеларускага з'езда 1917 года, настаўнік **Макар Краўцоў**, які працаваў у Мінску і Радашкавічах. У 1930-я Краўцоў быў асуджаны камуністамі і закатаваны падчас допытаў восенню 1939 года.

Музыку да гімна напісаў **Уладзімір Тэраўскі** – вядомы як кіраўнік хору Белдзяржуніверсітэта, аўтар музыкі да шэрагу спектакляў і песні «Купалінка». Кампазітара расстралялі за год да смерці паэта Краўцова ў Мінску. Магчыма, у Курапатах. Такім чынам, абодва аўтары гімна БНР сталі ахвярамі савецкага тэрору.

У якасці гімна Беларусі марш быў прыняты ў 1920 годзе. На момант яго напісання БНР ужо дэ-факта не існавала, а яе кіраўніцтва знаходзілася ў выгнанні.

Марш актыўна выкарыстоўваўся арганізацыямі беларускай дыяспары, якія стаялі на незалежніцкіх пазіцыях. У 1991 годзе, пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі, была прапановы зрабіць «Ваяцкі марш» гімнам Рэспублікі Беларусь.

### Паэт з-за савецкіх уладаў ледзь не ўчыніў суіцыд. А потым напісаў гімн

Гімн Беларускай ССР створаны ў 1955 годзе. Музыка **Нестара Сакалоўскага**, словы **Міхася Клімковіча**. З'яўляўся дзяржаўным гімнам у 1955-1991 гадах. Упершыню гімн прагучаў у Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета.

Яшчэ да напісання гімна, у 1936 годзе, паэта Міхася Клімковіча савецкія ўлады абвінавацілі ў сувязях з трацкістамі і нацдэмамі. Таму ён спрабаваў скончыць жыццё самагубствам – перарэзаў сабе горла.

### «Радзіма мая дарагая» – незацверджаны гімн

У 1991 годзе гімн БССР стаў неактуальным, а новага не было. Таму да 1995 года ў яго якасці часта выкарыстоўвалі песню на словы **Алеся Бачылы** «Радзіма мая дарагая». Аўтарам музыкі быў **Уладзімір Алоўнікаў**. На пачатку 1990-х мелодыя песні была пазыўнымі на беларускім радыё. У гэты ж час верш Бачылы пачалі друкаваць у школьных дзённіках побач са сцягам і гербам. Сам Алоўнікаў не хацеў, каб песня стала афіцыйным гімнам. Кампазітару было важна, каб яго песні спявалі проста так. А гімны проста так не спяваюць.




Старажытны рукапіс гімна «Багародзіца».

### Конкурс гімнаў без пераможца

Пасля зацвярджэння герба «Пагоня» і белчырвона-белага сцяга ў якасці дзяржаўных сімвалаў паўстала пытанне пра новы дзяржаўны гімн. Міністэрства культуры ў 1991 годзе абвясціла конкурс.

Тэкст і музыку павінна было ацэньваць журы пад кіраўніцтвам **Ніла Гілевіча**. У журы ўвайшлі 22 чалавекі. Сярод іх – **Рыгор Барадулін**, **Уладзімір Някляеў**, **Вольга Іпатава**, **Адам Мальдзіс**, **Дзмітры Смольскі**.

Паступіла звыш трохсот варыянтаў новага гімна. Журы адабрала 50 лепшых. У далейшым планавалася ўзяць ад трох да пяці варыянтаў і зрабіць усенароднае праслухоўванне на радыё. Разам з аматарскімі варыянтамі журы вырашыла прадставіць на праслухоўванне варыянты гімнаў, створаныя на верш «Пагоня» Максіма Багдановіча, «Магутны Божа» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» **Наталлі Арсенневай** і **Макара Краўцова**.

24 снежня 1992 года журы разгледзела 18 варыянтаў гімна, аднак ні адзін з іх так і не стаў візітнай карткай Беларусі. У асноўным спрэчкі вяліся вакол тэкстаў Наталлі Арсенневай, Максіма Багдановіча і Макара Краўцова.

Конкурс цягнуўся да 1995 года. Аднак гімн так і не абралі. Журы выказалася пра тое, што найбольш прымальны тэкст Наталлі Арсенневай «Магутны божа». Але ў газеце «Советская Белоруссия» з'явіўся артыкул, аўтары якога сцвярджалі, што аўтарам гімна павінны быць узорна-паказальны чалавек, а не Арсеннева, якая быццам бы мела сувязі з фашыстамі.

### Да пачатку 2000-х на афіцыйных імпрэзах гучала мелодыя старога гімна

Да пачатку 2000-х на афіцыйных дзяржаўных мерапрыемствах выкарыстоўвалася толькі музыка гімна БССР. Без слоў. Менавіта яна гучала падчас першай прысягі **Аляксандра Лукашэнкі**. У 2002 годзе Лукашэнка абвясціў конкурс на стварэнне гімна. Пераможцам абяцалі шчодры ганарар.

### «Мы – беларусы, мірныя людзі». Мелодыя старая, словы новыя часткова

У выніку абралі варыянт гімна «Мы – беларусы, мірныя людзі». Мелодыя засталася тая ж, што ў 1955 годзе пісаў Нестар Сакалоўскі. А словы Міхася Клімковіча перарабіў **Уладзімір Карызна**.

Мовазнаўцы не раз адзначалі хібы сучаснага гімна. У прыватнасці націск на «і» ў слове «імя» ў прыпеве. І немілагучнае спалучэнне «радасці сцяг» у адным з куплетаў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**21 ЖНІЎНЯ**
**1841.** Англічанін **Джон Хэмптан** запатэнтаваў пад'ёмныя жалюзі.

**22 ЖНІЎНЯ**
**1861.** Нарадзіўся **Ігнат Буйніцкі**, беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра. Удзельнік літаратурнага жыцця. У 1917 годзе быў на Заходнім фронце на ваеннай службе ў Маладзечне. Памёр на сцэне ў час рэпетыцыі, займаючыся салдацкай мастацкай самадзейнасцю. У Маладзечне яго імя носіць вуліца.

**23 ЖНІЎНЯ**
**1939.** У Маскве падпісаны дагавор аб ненападзенні паміж Германіяй і СССР – пакт Молатава-Рыбентропа. У тайным пратаколе да яго зацверджаны падзел Усходняй Еўропы.

**24 ЖНІЎНЯ**
**1906.** У фальварку Баўдыры, цяпер Смаргонскі раён, нарадзіўся **Юльян Саковіч**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Адзін з кіраўнікоў канспірацыйнай Беларускай незалежніцкай партыі і кіраўнік Беларускай Народнай Грамады. Забіты польскімі падпольшчыкамі 13 чэрвеня 1943 года. Пахаваны ў Лідзе.

**25 ЖНІЎНЯ**
**1991.** Прыпыненая дзейнасць КПБ. Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі нададзеная сіла канстытуцыйнага закона.

**26 ЖНІЎНЯ**
**1962.** У Маркаве Маладзечанскага раёна нарадзілася **Таццяна Сапач** (Дубавец), беларуская паэтка, журналістка і перакладчыца. Скончыла СШ у Маркаве. Аўтарка двух паэтычных зборнікаў «Восень» (1991) і «Няхай не пакіне нас восень» (2008). Ад 1987 да 1990 года жыла з сям'ёй у Маладзечне. Ад 1990 – у Вільні. Працавала на Літоўскім тэлебачанні, вяла беларускамоўную перадачу «Віленскі сшытак». Трагічна загінула ў аўтакатастрофе 27 снежня 2010 года. Пахаваная ў Маркаве.



**27 ЖНІЎНЯ**
1920. У часе польска-савецкай вайны бальшавікі, якія ўцякалі пасля прайгранай Варшаўскай бітвы, перадалі Літве Вільню.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Як і чаму была зруйнаваная Берлінская сцяна

**30 гадоў таму адбылася вялікая гістарычная падзея: была зруйнаваная сцяна, якая падзяляла Германію і ўвесь свет. Гэта здарылася быццам бы нечакана, аднак на гэта былі свае перадумовы.**



Фота nytimes.com.

У Сцяне рассякаюць уваход на тэрыторыю Заходняй Германіі.

### Што такое Берлінская сцяна?

Берлінская сцяна, пабудаваная ў 1961 годзе ўладамі ГДР, была сімвалам падзелу Еўропы і ўсяго свету, супрацьстаяння Усходу і Захаду, барацьбы паміж капіталізмам і сацыялізмам савецкага ўзору.

**Заходні Берлін быў акружаны бетоннай сцяной, якая цягнулася на 155 кіламетраў, калючым дротам, міннымі палямі, кантрольна-следавай паласой, вышкамі з узброенымі гэдээраўскімі салдатамі, але яго жыхары маглі свабодна падарожнічаць па ўсім свеце.**

Сцяна была пабудавана для «сваіх», каб яны не беглі на Захад. Па іх і стралялі, калі яны спрабавалі гэта зрабіць.

### Прэс-канферэнцыя голасам Шабоўскага і тысячы людзей на мяжы

Усё змянілася за адну ноч – з 9-га на 10 лістапада 1989 года. У гэтую ноч сцяна, якая падзяляла дзве германскія дзяржавы, была зруйнаваная. На прэс-канферэнцыі член Цэнтральнага камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі **Гюнтэр Шабоўскі** ўвечары 9 лістапада абвясціў, што жыхары ГДР цяпер могуць свабодна ездзіць на Захад. Гэту заяву трансліравала тэлебачанне.

У той момант тысячы людзей накіраваліся на прапускныя пункты, якія падзялялі Усходні і Заходні Берлін.

Гэдээраўскія памежнікі не чакалі такой масы людзей і не атрымалі ўказання «зверху», але ўсё-ткі адкрылі мяжу. У тую ноч 30 тысяч салдат арміі ГДР былі прыведзеныя ў павышаную баявую гатоўнасць. Аднак ніхто з іх не адважваўся даць загад страляць у людзей.

### Пачалося з СССР

Падзенне сцены стала пачаткам канца падзелу Германіі, але ўсё здарылася не адразу. Тэктанічныя зрухі ў сацыялістычным лагеры пачаліся за некалькі гадоў да гэтага, калі ў СССР прыйшоў да ўлады **Міхаіл Гарбачоў**. Велізарная большасць немцаў лічыць, што менавіта яму, ініцыятару палітыкі галоснасці і перабудовы, Германія шмат у чым абавязаная сваім уз'яднаннем.

Пратэсты, рух за свабоду і нават паўстанне былі ва «ўсходнім блоку» і да Гарбачова: у 1953 годзе – у ГДР, у 1956-м – у Венгрыі, у 1968-м – у Чэхаславакіі. Усе яны былі жорстка падушаныя савецкімі танкамі. У канцы 1990-х Савецкі Саюз адмовіўся ад так званай «дактрыны Брэжнева», згодна з якой Масква брала сабе права душыць у сацлагеры любыя адхіленні ад курсу Крамля.

### Межы становяцца адкрытымі

Першымі сталі смялей выкарыстоўваць новую свабоду ў Польшчы і Венгрыі. Польскія ўлады ўжо ўлетку 1988 года пачалі дыялог з імі ж забароненым незалежным прафсаюзам «Салідарнасць», у якім актыўны ўдзел прыняла каталіцкая царква.

«Салідарнасць» карысталася вельмі вялікім аўтарытэтам у краіне, асабліва ў тыя часы, калі кіраўніком каталіцкай царквы быў **Ян Павел II**. Палякі першымі разбілі манаполію кампартыі. За імі рушылі ўслед венгры, якія ўлетку 1989 года пачалі здымаць памежныя агароджы на мяжы з Аўстрыяй. Праз адчыненую «зялёную мяжу» накіраваліся на Захад тысячы грамадзян ГДР, якія спецыяльна для гэтага ехалі ў Венгрыю – нібыта на летні адпачынак. Іншыя шукалі магчымасці бегчы на Захад праз пасольства ФРГ у Празе.

**Эрых Хонэкер**, які стаяў на чале ГДР, і яго асяроддзе ўсяляк праціваліся новым павевам і адкрыта не ўхвалялі таго, што адбывалася ў СССР. У нейкі час ва Усходняй Германіі нават пачалі забараняць некаторыя савецкія часопісы. Таму ўсходнія немцы беглі з краіны, а іншыя, якіх было значна больш, выходзілі на вуліцы яе гарадоў, патрабуючы перамен.

Ад верасня 1989 года ў Лейпцыгу кожны панядзелак дзясяткі тысяч людзей выходзілі на дэманстрацыі. 9 кастрычніка, у дзень 40-годдзя абвяшчэння ГДР, якое пышна святкавалі афіцыйна, у дэманстрацыі пратэсту, як і папярэднія, не дазволенай уладамі, прынялі ўдзел больш за 70 тысяч чалавек, праз тры тыдні – 300 тысяч.

### Страх знікае

Пратэставалі не толькі ў Лейпцыгу і Усходнім Берліне, але і ў многіх іншых гарадах ГДР. Лозунгі станавіліся ўсё больш смелымі: людзі патрабавалі свабоды друку і сходаў, дэмакратычных выбараў, скасавання ўсёмагутнай тайнай паліцыі «Штазі». Паліцыя і дзяржбяспека яшчэ спрабавалі разганяць гэтыя дэманстрацыі, хоць тыя былі мірныя, і затрымлівалі іх арганізатараў, але ставілася ясна: дзяржава капітулюе, страх знікае, народ больш не баіцца дыктатуры.

Ужо тады ўдзельнікі мірных дэманстрацый у ГДР скандзіравалі «Мы – адзін народ!», яны патрабавалі адкрыць межы. Хонэкеру прыйшлося сысці ў адстаўку. За ім рушыла ўслед усё Палітбюро ЦК і Савет міністраў.




Фота npr.org.

Людзі на Берлінскай сцяне падчас шматтысячнага мітынгу.

Быў абвешчаны курс на «дэмакратызацыю», як яе разумела партыйная наменклатура.

**Але было ўжо позна – 4 лістапада на цэнтральнай усходнеберлінскай плошчы Аляксандэрплац прайшоў грандыёзны мітынг, у якім прынялі ўдзел больш за паўмільёна чалавек.**

На ім апладзіравалі апазіцыянерам і асвіствалі членаў ЦК. І калі Шабоўскі ўвечары 9 лістапада абвясціў аб магчымасці свабодна пакідаць ГДР, стрымаць людзей, якія прагнулі свабоды, было ўжо немагчыма.

Праз некалькі дзён прыйшлося прасякаць у сцяне новыя прапускныя пункты. Тых, хто прыходзіў ці прыязджаў у Заходні Берлін з Усходняга, захоплена сустракалі кветкамі, шампанскім, цукеркамі. Незнаёмыя людзі абдымаліся і плакалі. Гэта было сапраўднае свята, працягам якога стала праз 11 месяцаў юрыдычна афармленае дзяржаўнае ўз'яднанне Германіі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА па матэрыялах dw.com.**

# «Ніколі ў жыцці не бачыла, каб можна было ні за што біць чалавека»

**Раіса Брысюк працавала галоўным мастаком маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Цяпер на пенсіі, уладальніца залатога і сярэбранага медалёў ВДНГ, куратар шэрагу выстаў.**



Маладзечанка Раіса Брысюк.

16 жніўня маладзечанцы маглі чуць яе эмацыйную прамову з трыбуны падчас акцыі пратэсту на Цэнтральнай плошчы. Убачанае ўвечары 9 жніўня, пасля выбараў, не дае Раісе Аляксееўне маўчаць.

– Кожны дзень я хаджу ў парк гуляць. Тым вечарам дайшла ажно да плошчы. Там стаяла куча ваенных, чорныя, без галоў, усё адно як груганы якія, і перад імі на каленях стаялі маладыя людзі, дзевачкі, хлопчыкі.

> **Падышоў мужчына сямідзесяці год, кажа: «Пазавіце нам начальніка, мы хочам з ім пагаварыць!» Болей нічога не сказаў, а з калоны вырваліся ваенныя і пачалі лупіць гэтага чалавека палкамі па галаве, па плячах, павалаклі ў гэту машыну.**

Я крычала, як звар'яцелая: «Адкрыйце вашы твары, я хачу вам паглядзець у вочы! Мне восемдзесят два гады! Можаце мяне забіць, але не біце гэтых дзяцей!». Але яны стаялі нерухома. А за гэтымі груганамі яшчэ ляжалі людзі, выпрастаўшы рукі і ногі, тварам уніз. Іх таксама пачалі біць і кідаць у тыя машыны. Дзве групы было такіх, чалавек па дзесяць. Я такога ніколі ў жыцці не бачыла, каб можна было ні за што біць чалавека. Я калі стральбу па тэлевізары бачу, адразу выключаю, не магу на гэта глядзець. А тут давялося ўбачыць такое… Страшна. Я плакала, калі не стала Карпенкі, Ганчара. Мне было так шкада! Я гэтых хлопцаў ведала. Помню іх вясёлымі, харошымі, дзелавымі і надта разумнымі. Я вельмі радавалася, калі адзін з забойцаў прызнаўся, дума, цяпер раскрыюць гэту справу, але ўсё замоўкла.

На апошніх выбарах Раіса Аляксееўна галасавала «за Святлану»:

> **– Я магла б падтрымліваць Лукашэнку толькі таму, што ён мой зямляк – я нарадзілася недалёка ад Горак. Але я не магу падтрымліваць няпраўду, я не магу падтрымліваць такую жорсткасць.**

Сёлета пенсіянерка дэманстратыўна пайшла на выбары ў нацыянальным касцюме.

– За дваццаць шэсць гадоў першы раз галасавала, бо раней лічыла, што выбары ўсё адно несправядлівыя.

> **Я паглядзела бюлетэнь, каб там не было кропачак, сфатаграфавала яго з абодвух бакоў, склала гармонікам.**

Пра тое, што так трэба рабіць, Раіса Аляксееўна прачытала ў інтэрнэце. Яна чытае газету «Народная воля» ад дня яе заснавання і мае там улюбёных журналістаў. А яшчэ захапляецца беларускай літаратурай, бо лічыць, што кнігі дапамагаюць лепш аналізаваць рэчаіснасць.

> **– Справа ў тым, што часам вельмі многа перачытала беларускіх пісьменнікаў. – кажа Раіса Аляксееўна і сціпла дастае спіс на 55 нядаўна прачытаных твораў Быкава.**

На пытанне, што б яна сама зрабіла, каб усё было справядліва і сумленна, Раіса Аляксееўна адказвае:

– Ёсць разумныя галовы. Я люблю, калі гавораць вучоныя, дактары, пісьменнікі. Я не магу не верыць гэтым людзям, я бачыла іх вочы… У нас вельмі таленавітыя людзі! Яны ўсё ўмеюць! Толькі дай ім свабоду!

**Ганна ШАКЕЛЬ,**
**Маладзечна.**
**Фота аўтара.**

# «У нашай школе працуюць годныя настаўнікі»

## Выпускнік маладзечанскай СШ №5 з Вашынгтона напісаў ліст яе дырэктару

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Выпускнік СШ №5 Маладзечна, які цяпер жыве ў Вашынгтоне, праз нашу газету звяртаецца да дырэктара сваёй школы Яўгена Макарэвіча:**

«Паважаны Яўген Васільевіч! Як былы выпускнік СШ №5 я адчуў гонар, калі прачытаў у «Рэгіянальнай газеце» пра вашы сумленныя дзеянні падчас выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Мне вельмі прыемна даведацца, што ў нашай школе працягваюць выкладаць такія годныя настаўнікі, якія па-сапраўднаму любяць нашу родную Беларусь.

Я ганаруся тым, што калісьці вучыўся ў школе, якую Вы зараз узначальваеце.

Я хачу вас запэўніць, што мы, беларусы, якія цяпер жывуць за мяжой, уважліва сочым за тымі важнымі і страшнымі падзеямі, якія адбываюцца ў гэтыя дні. І мы выказваем падтрымку нашаму народу, які цяпер адчуў сябе здольным самому вырашаць свой лёс. У гэтыя дні многія з нас праводзяць мітынгі на вуліцах гарадоў па ўсім свеце, каб выказаць сваю салідарнасць з суайчыннікамі.

Так, сёння я з маімі сябрамі-маладзечанцамі і яшчэ з 50 іншымі беларусамі выйшлі на акцыю каля Белага Дома ў Вашынгтоне, каб прыцягнуць увагу грамадскасці і ўрада ЗША да фактаў фальсіфікацый выбараў у Рэспубліцы Беларусь і да актаў гвалту над бяззбройнымі людзьмі ў Мінску і па ўсёй краіне. Народ Беларусі заслугоўвае лепшай будучыні.

І я ўпэўнены, што з такімі настаўнікамі, як Вы, Яўген Васільевіч, у нас усё атрымаецца.

З павагай, Юрый Лукашэвіч».

Нагадаем, што **на выбарчым участку №29 дырэктар Яўген Макарэвіч** быў старшынёй камісіі. Як нам паведамілі, на ўчастку за Святлану Ціханоўскую прагаласавала на 120 чалавек больш, чым за Аляксандра Лукашэнку. Як паведаміў нам Яўген Васільевіч, ён напісаў заяву на звальненне. Але яе не падпісалі.

**Аддзел інфармацыі.**

# «Перакінулі праз агароджу... Перакулілі ў паветры... І два ўдары дубінкай»

## Акцёр Мінскага абласнога драмтэатра расказаў пра затрыманне на мірнай акцыі

**У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» акцёр Мінскага абласнога драмтэатра Павел Святоха прыйшоў кульгаючы. Яшчэ не загаіліся ногі, збітыя амапаўцамі пры затрыманні на плошчы ў Маладзечне. Цяпер мужчына на бальнічным. Пра затрыманне ўвечары 10 жніўня і пра знаходжанне ў Маладзечанскім РАУС Павел расказаў карэспандэнту.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Павел Святоха.

МАЛАДЗЕЧНА

– Каля 18:40 мы з жонкай Аленай падышлі на Цэнтральную плошчу. Ля лавак і фантана было шмат амапаўцаў са шчытамі. Пасля палова з іх пайшла ў цэнтр, да парку, палова – у бок рынку. Якраз там стаялі мы з жонкай і яшчэ шмат людзей. Восем амапаўцаў рушылі ў наш бок. Чацвёра з іх падышлі да нас і ў нецэнзурнай форме сказалі сыходзіць. Я падняў рукі і сказаў, што сыходжу.

> **Зрабіў пяць-сем крокаў і... мяне схапілі тыя чатыры амапаўцы. Перакінулі праз металічную агароджу. Перакулілі ў паветры, і ад аднаго паляцеў удар дубінкай па назе, ад другога – па плячах.**

Паспеў заўважыць, што адзін з амапаўцаў дзіўна паглядзеў на мяне, пасля – на сваіх калег. Мне нават падалося, што ён хацеў мяне адпусціць. У той час, калі заламалі рукі і ўсунулі ў «Джып-патрыёт», менавіта той амапавец начапіў мне акуляры, што ўпалі пры затрыманні.

Калі Паўла забралі, на плошчы засталася яго жонка Алена. Яна крычала і плакала.

### «Ва ўнутраным дворыку – каля 50 чалавек тварамі ў асфальт»

Паўла прывезлі ў Маладзечанскі РАУС. Адзін з амапаўцаў сказаў: «Зараз пабачыш сваю стабільнасць».

– Я выйшаў з машыны і бачу: ва ўнутраным двары ляжаць недзе 30-50 чалавек тварамі ў асфальт. Рукі сцягнутыя. Ад сцяжак у мяне засталіся раны, але ўжо загаіліся, – працягвае Павел. – Ходзяць, равуць. Кагосьці, і мяне ў тым ліку, проста так б'юць дубінкай. Некаторых білі нагамі, іншым наступалі на рукі або на галаву.

Ва ўнутраным двары РАУС Павел ляжаў пяць гадзін. Стала ўжо цёмна, была глыбокая ноч. Затрыманыя мерзлі. Права Паўла на адзін тэлефонны званок не задаволілі.

– На просьбу схадзіць у прыбіральню нам адказвалі: «Рабі прыбіральню там, дзе ты ляжыш». Некаторыя так і рабілі, бо не вытрымлівалі. Былі і добрыя міліцыянеры. Па іх я бачыў: яны супраць такога ламання людзей, але нічога не могуць зрабіць. Такія акуратна падымалі затрыманых і вялі ў прыбіральню. Пасля мне ўжо не так моцна зацягвалі рукі. Не ведаю чаму. Можа, я спадабаўся міліцыянеру. А можа, ён мяне пазнаў як акцёра.

### «А дзе спаць?» – «Ды тут, на падлозе»

Калі Паўла на нейкі час прывялі ў адзяленне, супрацоўнік РАУС спытаў у затрыманага, хто ён. Павел расказаў, што ён артыст тэатра і кіно. Нядаўна атрымаў дыплом аб вышэйшай адукацыі. Міліцыянер паспачуваў, сказаў, што шкадуе Паўла, але нічога ўжо не зробіш. Пасля размовы зноў адвялі ў дворык і паклалі тварам на асфальт.

– Праз нейкі час рукі развязалі, дазволілі сесці. Пабачыў, што ўздоўж усяго будынка РАУС стаяць людзі тварамі да сцяны. Некаторыя ляжаць, некаторыя сядзяць. Іх было так шмат. Бачыў, як адна супрацоўніца міліцыі прывяла дзвюх дзяўчат. Чуў, як жанчына-міліцыянер абражала адну затрыманую. Тая спрабавала на словах неяк супрацьўляцца. Але падышоў амапавец з дубінкай, і дзяўчына замаўчала. Праўда, каб дзяўчат білі, я не бачыў.

На світанні пачалі выклікаць затрыманых па прозвішчах. Першым паклікалі затрыманага з прозвішчам Аксёнаў. Павел пазнаў, што гэта супрацоўнік тэатра – рэжысёр па святле.

– Назвалі маё прозвішча. Паклікалі ў РАУС, паставілі тварам да сцяны. Металадэтэктарам прайшліся па абутку. Як я потым даведаўся: у падэшве шукалі лязо, каб затрыманы не парэзаў вены. Зняў шнуркі з кедаў. Адчынілі жалезныя дзверы ў камеру-«стакан». У вельмі маленькім памяшканні было сем мужчын. Да іх прывялі яшчэ і нас двух. Пытаюся: «А дзе спаць?». А мне адказваюць: «Ды тут, на падлозе». Кладуся на падлогу. Стомлены, усё баліць.

> **Перад тым, як накіраваць у камеру, у мяне забралі ўсе рэчы і акуляры. А без іх дрэнна бачу. У мяне зрок – мінус пяць.**

### «Ну, усё. Прыляцеў. Артыст-экстрэміст»

Павел прызнаецца, што часу там не адчуваў. Але ведае, што ў «стакане» замест 12 гадзін, дазволеных па законе, правёў двое сутак. За гэты час мужчына ні разу не еў. Затрыманых прыкладна раз на пяць гадзін вадзілі ў прыбіральню. Там можна было папіць вады, калі паспееш. Падчас аднаго такога паходу Павел спытаў у міліцыянера, навошта яны так з затрыманымі. І сталы мужчына сур'ёзна адказаў Паўлу, нібыта ёсць інфармацыя, што ўсім, хто быў на плошчы 10 жніўня, заплацілі 50 еўра.

Вось што Павел расказвае пра суд 11 жніўня:

– Мяне вельмі здзівіла, што судзілі нас не ў будынку суда, а ў РАУС. Суддзя спытаў, як мяне затрымлівалі. Я расказаў. Ён кажа, вам свеціць 30 сутак: 15 – па адным артыкуле і 15 – па другім. Судзілі па артыкулах за ўдзел у незаконным масавым мерапрыемстве і за супраціўленне міліцыі.

> **Я разводжу рукамі і кажу: «Паглядзіце на мяне. Я – і чатыры амапаўцы са шчытамі. Якое супраціўленне?».**

Спрабаваў дамовіцца, каб далі вялікі штраф, але не суткі. А мне ў адказ: «Сёння ў нас не дзень штрафаў. Я вам дам самы маленькі тэрмін за гэты дзень – дзесяць сутак». Я кажу: «Ну, калі ласка...». Тады суддзя спытаў, ці не хачу я 15 або 20 сутак. Выйшаў я з таго пакоя і думаю: «Ну, усё. Прыляцеў. Артыст-экстрэміст».

Яшчэ суткі Павел праседзеў у «стакане». Пасля яго перавялі ў камеру ІЧУ. Там – шэсць ложкаў. На ўсіх – збітыя людзі. Яшчэ адзін затрыманы стаяў ля сцяны. Павел зразумеў, што замест шасці іх будзе восем.

– Першы раз паеў прыкладна гадзін праз 50 пасля затрымання. Замест прызначаных дзесяці сутак адседзеў пяць. Але адчуванне было такое, нібы месяц. Раптам паклікалі на другі паверх, сказалі, што вырашылі нас адпускаць. Але на пяць сутак, якія засталіся, могуць затрымаць на працягу года.

Павел адзначае, што родным не давалі магчымасці перадаць яму ў РАУС патрэбныя рэчы. Толькі дзякуючы настойлівасці калег з тэатра мужчына атрымаў адзенне, бялізну, цыгарэты. Калі перадалі пакет, нават заплакаў.

– Было дзіўна, што іншым перадавалі пакункі з чаем, цукеркамі, салам, кілбасой. Пасля мая мама расказвала, што ім нават не маглі талкова паведаміць дні, у якія дазваляліся перадачы.

### Што прыносілі пачытаць затрыманым

А яшчэ, па словах Паўла, затрыманым прыносілі прэсу. Адрывалі акенцы-кармушкі і клалі газеты пра садагарод, вітаміны ў яблыках, турыстычныя сцяжыны ў Валожынскім раёне і сканворды.

– Думаў: навошта так з намі. Нам ужо і так хапіла. У апошні дзень адкрылася кармушка. Я папрасіў міліцыянера мне прыкурыць цыгарэту. Той прыкурыў і кажа: «Артыст вялікіх і малых? Ну што ж ты так?». Добра паразмаўлялі з ім. Вось такі кантраст.

Некаторых міліцыянераў Павел прасіў, каб патэлефанавалі жонцы. Тыя абяцалі, але не тэлефанавалі.

> **– Думаў, што пасля затрымання мяне змогуць звольніць з працы. Скажуць: крымінальнік.**

Але як выйшаў, усе пачалі тэлефанаваць, падтрымліваць. Неяк зайшоў у тэатр на рэпетыцыю. Калегі мяне абдымалі, некаторыя – са слязьмі.

А дырэктар тэатра, па словах Паўла, і не думаў яго звальняць. Сказаў: «Як можна звольніць героя».


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# «Калі збіваў АМАП, брат майго аднакласніка пасмяяўся і пайшоў. Ён міліцыянер»

**Арцём Пшэннік працуе прадпрымальнікам. Яго затрымалі каля 19 гадзін у сераду, 12 жніўня, у дварах па вуліцы Францыска Скарыны. Арцём расказаў журналістам «Рэгіянальнай газеты», як гэта адбылося.**



Арцём Пшэннік.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Мужчына ўбачыў, што 13 супрацоўнікаў АМАПа б'юць таксіста, падышоў дапамагчы мужчыну. Таксіст сігналіў, сілавікі выцягнулі яго з машыны і пачалі збіваць.

– Я падышоў, пачаў разнімаць, – прыгадвае Арцём. – Яны пачалі збіваць мяне. За ўвесь час было больш за 200 удараў дубінкай. Білі па твары, галаве, правым баку. Аўтазак стаяў у дварах, пацягнулі да яго. Унутры было яшчэ трое. У аўтазаку прабылі каля чатырох гадзін.

> **Што там было, толкам не помню, губляў прытомнасць тры разы.**

Прасіў медыцынскую дапамогу, на што адказвалі, што я п'яны, пад наркотыкамі.

Мужчына праходзіў пасля медыцынскую экспертызу, якая паказала, што ён быў цвярозы. Каля апоўначы толькі прывезлі ў гаражы за міліцыяй, выкінулі з аўтазака. Па словах Пшэнніка, у гаражы было пяць ці шэсць затрыманых. Усім надзелі сцяжкі на рукі. Калі маладзечанцаў яшчэ дзве гадзіны збівалі ў двары міліцыі, гэта бачылі супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС.

– Там быў брат майго аднакласніка, – расказвае Арцём. – Сіняўскі Паша. Я гавару яму, як ты на гэта глядзіш. Ён пасмяяўся і пайшоў. Там былі і іншыя міліцыянеры. Я іх не ведаю, але апазнаў бы. Амапаўцы нам гаварылі: «майданаўцы», «уроды». Нас збівала каля шасці амапаўцаў. Я выкрыкваў: «За што?».

У камеру Пшэнніка пасадзілі аднаго. Апоўдні 13 жніўня Арцём зноў страціў прытомнасць. Выклікалі «Хуткую дапамогу». Дактары забралі, зрабілі здымкі.

> **У маладзечанца пералом пальца, выбітае калена, магчыма, парваныя звязкі, страсенне мазгоў.**

– Медперсанал – малайцы, – кажа Арцём. – Была і вада, і ўсё, што трэба. Пабыў да гадзін 17. Завезлі зноў, у «стакан». Пратрымалі да дзвюх гадзін ночы 14 жніўня. Ні вады, ні ежы не давалі, за паўтара сутак у прыбіральню дазволілі схадзіць адзін раз.

14 жніўня ў 15:40 быў суд. Абвінавачвалі па двух артыкулах – знаходжанне ў нецвярозым стане і супраціў службовым асобам пры выкананні абавязкаў па правапарадку. Асудзілі толькі па супраціўленні, далі штраф у памеры дзесяці базавых велічынь. Пасля суда адпусцілі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Маладзечанцу з чэрапна-мазгавой траўмай тры дні не аказвалі медпамогу

**Маладзечанец Павел Цітавец і яго жонка расказалі, як Паўла затрымаў АМАП увечары 9 жніўня.**

45-гадовы маладзечанец Павел Цітавец цяпер з чэрапна-мазгавой траўмай шпіталізаваны ў дзіцячую бальніцу. Яго жонка Алена расказала, як усё адбылося.

Паўла затрымалі 9 жніўня. Цітавец працуе на прыватнай фірме, займаецца шклопакетамі. Ён жыве ў раёне Маладзечанскай дзіцячай бальніцы, штовечар катаецца па горадзе. Вечарам ён ехаў у раёне гімназіі №6. Там супрацоўнікі АМАПа ударылі яго дубінкай. Так аглушылі, што мужчына страціў прытомнасць. Яго зацягнулі ў аўтазак, завезлі ў Маладзечанскі РАУС.

Там ён прабыў усю ноч без прытомнасці. Калі Павел ачуняў, было каля пяці раніцы, ён ляжаў на зямлі ў двары міліцыі.

Пра сваё затрыманне Павел Цітавец змог сёння расказаць журналісту «Рэгіянальнай газеты»:

– Я быў на плошчы. Сеў на скрыжаванні Хмяльніцкага і праспекта. Выскачылі. Я неяк не саабразіў. Выскачылі наперарэз, я пад горачку ехаў. Нават не зразумеў, як адбылося. Пэўна дубінкай атрымаў і страціў прытомнасць. Калі ачуняў, ужо быў світанак. Там у двары ўсе сядзелі. Кайданкі ззаду былі, не мог устаць, сесці. Як у аўтазак грузілі, без памяці. Чаму мне «хуткую» не выклікалі, не разумею. Правае вока заплыло, не расплюшчвалася. На другі дзень пухліна пачала спадаць. Чаму ў Чэрвені міліцыянеры дактароў не выклікалі, не ведаю. Ім галоўнае было пратаколы скласці.

– У яго чэрапна-мазгавая траўма, – кажа Алена. – Ён доўгія гадзіны быў без прытомнасці. І ніякай медыцынскай дапамогі ўвесь гэты час не аказвалі.

Жонка ад вечара нядзелі да 15 гадзін серады не мела ніякай інфармацыі пра мужа. Забрала мужа з Чэрвеньскага аддзялення міліцыі.

Каля 15 гадзін 12 жніўня жанчына дазванілася на лінію 102, дзе адказалі, што Цітавец знаходзіцца ў Чэрвеньскім РАУС. У судзе Чэрвеньскага раёна адказалі, што муж асуджаны, прыгавор прысудзіў восем сутак арышту.

– Я ўжо адлічваць пачала, калі гэтыя восем сутак заканчваюцца, – прыгадвае жонка. – Яго ж забраць трэба. Каля 19 гадзін гэтага дня Паша пазваніў з чужога тэлефона, проста ў прахожага папрасіў. У 22 гадзіны прыехала ў Чэрвень. Пабачыла збітага мужа апоўначы, увесь гэты час яму не аказвалі меддапамогу. Магчыма, мая памылка была, што не шпіталізавала адразу. Але я вырашыла, што яму трэба проста па-чалавечы легчы. Ноччу стагнаў, раніцай пазваніла доктару. Сказалі тэрмінова звярнуцца да доктара.

Алена расказвае, што мужчына ў свядомасці першыя хвіліны размовы, пасля пачынае блытацца, выказваць фразы недарэчы. Паляпшэнняў у стане яна не бачыць.

Паводле заключэння КТ-даследавання галаўнога мозга, нельга выключыць пералом па правым вянечным шве ў скроневай вобласці. Ачаг удару другога тыпу ў левай скроневай долі.

Паводле пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні, у 22:40 на Цэнтральнай плошчы пасля правапарушэння, прадугледжанага часткай 1 артыкула 23.34 – парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў. З пратакола, Цітавец адмаўляўся выконваць неаднаразовыя, законныя і відавочныя патрабаванні міліцыянера Маладзечанскага РАУС Віктара Вяргейчыка спыніць супрацьпраўныя дзеянні, адмовіўся пакінуць плошчу, крычаў, адмахваўся, упіраўся рукамі і нагамі. Гэтым наўмысна аказаў непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні грамадскага парадку.

Жонка Цітаўца мае намер падаваць заяву ў Следчы камітэт.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

## Брэсцкае «Дынама» ўпершыню перамагло ў Лізе чэмпіёнаў

Брэсцкае «Дынама» выйшла ў другі кваліфікацыйны раўнд Лігі чэмпіёнаў. У матчы 1-й стадыі адбору берасцейцы дома разграмілі «Астану» – **6:3**. Па два галы на рахунку **Міхаіла Гардзейчука** і **Абдулайе Дыяла**.

**ДЫНАМА**: Ігнатовіч – Юзапчук, Хачэрыдзі, Кікі, Пячэнін – Тэкля, Кісляк (к) (Крывец, 73), Сядзько – Дыяла, Мілеўскі (Быкаў, 86), Гардзяйчук (Савіцкі, 73).

Запасныя: Траццяк, Паўлавец, Вітус, Верацiла, Быкаў.

**АСТАНА**: Непагодаў – Перцух (Барсегян, 35), Шымуновіч, Радаковіч, Шомка (к) – Маеўскі – Томас, Эбонга, Сацірыў, Бейсэбекаў – Шчоткін (Ратару, 53).

Запасныя: Эрыч, Поснікаў, Сігур'ёнсан, Жалмукан.

**Галы: 1:0** – Гардзяйчук. **2:0** – Пячэнін. **3:0** – Гардзяйчук. **4:0** – Сядзько. **4:1** – Томас. **4:2** – Ратару. **5:2** – Дыяла. **5:3** – Бейсэбекаў. **6:3** – Дыяла.

Наступным сапернікам «Дынама» стане пераможца матча «Коннах куэй» (Уэльс) – «Сараева» (Боснія і Герцагавіна).

**Паводле pressball.by.**

## Савет ІІХФ абмяркуе сітуацыю з ЧС-2021 у сярэдзіне верасня

Рада Міжнароднай федэрацыі хакея (ІІХФ) абмяркуе сітуацыю, звязаную з арганізацыяй чэмпіянату свету ў Мінску і Рызе.

– Савет ІІХФ зноў збярэцца ў сярэдзіне верасня, каб абмеркаваць сітуацыю, якая склалася, і праінфармаваць аб любых абнаўленнях статусу турніру, – паведамілі ў прэс-службе ІІХФ.

Нагадаем, прэм'ер-міністр Латвіі **Крыш'яніс Карыньш** пасля пазачарговага пасяджэння ўрада заявіў, што рэспубліка пачне перамовы з ІІХФ пра магчымасць правядзення турніру сумесна з іншай краінай замест Беларусі. Ён падкрэсліў, што, калі ІІХФ не ўхваліць пазіцыю Латвіі і сітуацыя ў Беларусі не зменіцца, урад можа прыняць рашэнне аб немагчымасці арганізоўваць турнір.

ЧС-2021 павінны прайсці ў Рызе і Мінску ад 21 мая да 6 чэрвеня 2021 года.

**Паводле ТАСС.**




Фота noc.by.

Дзмітры Асанаў – знакаміты маладзечанскі баксёр.

# Маладзечанскі баксёр заклікаў спыніць гвалт і правесці новыя выбары

**Дзмітры Асанаў стаў адным са ста беларускіх спартсменаў, якія падпісаў калектыўны ліст з патрабаваннямі да ўлады. Спартсмены пішуць, што калі ўлада не выканае іх патрабаванні, то яны не будуць выступаць за нацыянальную зборную.**

### Хто такі Асанаў?

Дзмітры Асанаў нарадзіўся ў Маладзечне. З дзяцінства займаўся спортам – боксам і футболам, а потым цалкам перайшоў у бокс.

Асанаў з'яўляецца чэмпіёнам Беларусі, бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы ў 2015 годзе, сярэбраным прызёрам Еўрапейскіх гульняў у 2015 годзе, чэмпіёнам Еўрапейскіх гульняў у 2019 годзе.

### Зварот спартсменаў

«Мы, ніжэйпадпісаныя, з'яўляемся людзьмі, датычнымі да беларускага спорту, выступаем у нацыянальным першынстве і чэмпіянатах краіны, а таксама адстойваем інтарэсы Рэспублікі Беларусь на міжнароднай спартыўнай арэне, катэгарычна асуджаем шматлікія факты фальсіфікацыі вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама праявы гвалту з боку сілавых структур у дачыненні да грамадзян, якія выйшлі мірна выказаць пратэст.

Мы ўсё верым, што сярод супрацоўнікаў праваахоўных органаў ёсць годныя людзі і сапраўдныя прафесіяналы. Тым не менш, відавочна, што шэраг супрацоўнікаў аддалі, а іншыя супрацоўнікі выканалі злачынныя загады па ўжыванні неабгрунтаванай, непрапарцыянальнай сілы ў адносінах да грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Кіруючыся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, заканадаўствам, мы, з'яўляючыся часткай народа Рэспублікі Беларусь – крыніцы ўлады, патрабуем:

**1. Прызнаць выбары 9 жніўня 2020 года несапраўднымі з прычыны шматлікіх фактаў фальсіфікацыі і ціску на выбарчыя камісіі.**

Патрабуем правесці паўторныя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з усімі міжнароднымі стандартамі, а таксама адстаўкі дзеючага складу ЦВК з прыцягненнем да прадугледжанай заканадаўствам адказнасці.

**2.** Вызваліць усіх грамадзян, затрыманых падчас дэманстрацый і якія не маюць дачынення да супрацьпраўнай дзейнасці.

**3.** Вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.

**4.** Спыніць супрацьпраўную дзейнасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў і правесці праверкі законнасці іх дзеянняў, пачынаючы з моманту збору подпісаў для вылучэння ў кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

**5. Выявіць і пакараць вінаватых у збіцці і зверскіх здзеках з грамадзян, затрыманых падчас мірных дэманстрацый. Кіраўнікі сілавых структур, адказныя за гвалт, павінны падаць у адстаўку.**

**6.** Аказаць паўнавартасную медыцынскую, псіхалагічную, прававую і матэрыяльную дапамогу ўсім пацярпелым ад неправамерных дзеянняў прадстаўнікоў сілавых структур.

У выпадку з'яўлення інфармацыі аб спробах ціску, пагроз звальнення або парушэннях правоў прадстаўнікоў спорту, якія падпісаліся пад гэтым лістом, усе спартсмены будуць дзейнічаць салідарна, аж да магчымай адмовы ад выступлення за нацыянальную зборную краіны або адмовы ад арганізацыі міжнародных і нацыянальных спартыўных мерапрыемстваў. Акрамя таго, дадзеныя факты неадкладна будуць накіраваны ў МАК, міжнародныя спартыўныя федэрацыі і камітэты».

Зварот быў апублікаваны на сайце газеты «Прэсбол».



**Настасся УТКІНА**
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Удзельнік баёў; воін.
2. Народнае паданне аб якой-небудзь гістарычнай падзеі, асобе, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае.
4. Працэс уздзеяння чалавека на прыроду; чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцей.
7. Вялікая скрынка з векам і замком для захоўвання тканіны, адзежы, каштоўнасцей.
10. Сумесь газаў, галоўным чынам азоту і кіслароду, якія акружаюць зямлю і складаюць яе атмасферу.
11. Тонка ссуканая пража, якая выкарыстоўваецца для шыцця, вязання.
12. Будынак для стаянкі і рамонту машын.
13. Рашучае пярэчанне супраць чаго-небудзь, заява аб нязгодзе з чым-небудзь.
14. Укладзеная каменем праезная частка вуліцы, дарогі, плошчы.
15. Рад аднолькавых металічных звенняў, паслядоўна злучаных адно з адным.
17. Атмасферныя ападкі ў выглядзе крупінак лёду рознай велічыні.
20. Вышэйшая ступень параўнання да прыслоўя добра.
21. Дата, дзень, у які спаўняецца яшчэ адзін год з часу якой-небудзь падзеі.
22. Гандаль (пераважна прыватны) прадуктамі і іншымі таварамі шырокага ўжытку ў пэўныя дні на спецыяльна адведзеных плошчах.
23. Перарывістая лінія з кропак або кароткіх рысак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Думка, меркаванне пра якасць, годнасць, значэнне.
5. Вершаваны твор асобай формы на легендарную ці гістарычную тэму.
6. Прыродная або штучная чорная смалістая маса, якая выкарыстоўваецца ў некаторых галінах прамысловасці і якой пакрываюць дарогі, тратуары.
8. Матэрыяльныя каштоўнасці, грашовыя накапленні.
9. Хімічны элемент, празрысты бясколерны газ, які ўваходзіць у склад паветра і неабходны для дыхання, гарэння.
13. Распрацаваны план стварэння, пабудовы.
16. Асоба каманднага саставу арміі і флоту, якая мае воінскае званне ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна.
17. У веруючых — парушэнне правіл рэлігійнай маралі.
18. Мерапрыемствы для абароны.
19. Бакавы адростак на ствале дрэва.
24. Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства, мыслення і спосабах уздзеяння на навакольны свет.
25. Часовая стаянка войска ў палявых умовах, а таксама войска, размешчанага такім чынам.

## Адказы на крыжаванку з №33

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Цеста. 3. Гасцініца. 4. Мур. 8. Амонім. 9. Сюжэт. 10. Далонь. 11. Сляза. 13. Гума. 15. Палон. 17. Азарт. 19. Цела. 20. Ціск. 22. Пясок. 23. Царква. 24. Абед.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Абсурд. 3. Гараж. 5. Гадзіна. 6. Гняздо. 7. Малако. 9. Свабода. 12. Сястра. 14. Малюнак. 15. Прэстыж. 16. Міліцыя. 18. Мазоль. 19. Цвік. 21. Сцяна. 22. Праўда.

## ГАРАСКОП НА 21-27 ЖНІЎНЯ


**АВЕН.** Будзьце гатовыя да авантур. Звярніце ўвагу на знакі, якія вам дасылае лёс. Паспрабуйце разабрацца, знакі рыхтуюць да паспяховага вырашэння праблем або папярэджваюць. Гэта дапаможа разабрацца з сітуацыяй.


**ЦЯЛЕЦ.** Спатрэбіцца быць вынаходлівымі, каб усё паспець. Справы па гаспадарцы будуць патрабаваць увагі, але выканаць усё не атрымаецца. Нечаканa могуць з'явіцца перспектывы, якіх вы не чакалі.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вы можаце вырашыць усе пытанні самі. Але пачаць патрэбна з таго, каб не ствараць іх іншым. І вам самім адразу стане лягчэй жыць. Вы ідзяце да патрэбнай мэты, нават калі самі не заўважаеце гэтага.


**РАК.** Надышоў час, калі вы будзеце лавіць прапановы адну за адной. Для таго, каб зрабіць правільны выбар, пастарайцеся дасканала даследаваць усё, што адбываецца. Пастарайцеся быць пільнымі і асцярожнымі.


**ЛЕЎ.** Чым больш актыўнымі вы будзеце, тым больша поспеху дасягняце. Варта пазбягаць катэгарычнасці ў выказваннях. Калі ў нечым засумняваліся, пытайцеся адказу.


**ДЗЕВА.** Пастарайцеся спакойна засяроджвацца на справах. Поспех на вашым баку, але важна праяўляць актыўнасць. Пытайцеся пра тое, што вас хвалюе.


**ШАЛІ.** Не дазваляйце ўплываць на вас тым, хто можа сапсаваць настрой. Для адпачынку часу будзе няшмат, але пастарайцеся правесці яго з тымі, каму давяраеце.


**СКАРПІЁН.** У вас будзе магчымасць падвесці вынікі ў тым, што хвалюе найбольш. Змяніць штосьці, можна толькі прыслухаўшыся да голасу сумлення. Не ўсе памылкі можна выправіць, але наступствы некаторых магчыма мінімізаваць.


**СТРАЛЕЦ.** Сумненні і страхі варта пакінуць ззаду. Гэта будзе толькі замінаць. Калі вы прынялі рашэнне, то варта яго прытрымлівацца і рабіць усё для дасягнення мэты. Важна знайсці час для размоў са сваякамі, якім патрэбная вашая ўвага.


**КАЗЯРОГ.** Пастарайцеся рабіць справы адразу, як толькі спатрэбіцца іх выканаць. Неабходна дакладна расставіць патрэбы ў прыярытэтным парадку. Чакайце прыемнага падарунку ад лёсу.


**ВАДАЛЕЙ.** Не перажывайце з-за недахопаў, якія будуць узнікаць у працы. Галоўнае, што самае важнае вы робіце, і мэты дасягаеце. Калі некаторыя ўказваюць на дробязі, пакажыце тое вялікае, што вы робіце.


**РЫБЫ.** Вас будзе вельмі хваляваць пытанне, звязанае з асабістым жыццём, але вырашыць яго не атрымаецца. Пастарайцеся задумацца над сваімі каштоўнасцямі і тым, якім чынам вы можаце іх увасобіць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | 6 | | | 8 | | 1 |
| 8 | 5 | 6 | | | | | | 7 |
| 7 | | 3 | 4 | 2 | | | | |
| 9 | 2 | 4 | | | | | | 8 |
| | | 7 | | 4 | 9 | | 5 | |
| 5 | 6 | | | | | 9 | | |
| | | | 3 | | 4 | 1 | | |
| 3 | | 1 | | | | | | |
| | | 5 | | | | | | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Беларусы Флорыды выйшлі на акцыю салідарнасці. Сярод іх – маладзечанкі

МАЛАДЗЕЧНА

**15 жніўня беларусы штата Флорыда ў горадзе Сэнт-Аўгусціне зладзілі акцыю салідарнасці.**

Людзі з дзецьмі трымалі плакаты з надпісамі ў падтрымку беларусаў і крычалі «Жыве Беларусь». Улады не перашкаджалі акцыі. Удзельнікаў здымала мясцовае тэлебачанне.

Сярод удзельнікаў акцыі былі маладзечанкі **Марына** і **Алена**. Алена прыйшла на мерапрыемства з мужам **Адамам** і маленькай дачкой **Эліяй**.

У Флорыдзе Алена – ад 1997 года. Раней яна жыла ў Маладзечне. Тут з залатым медалём яна скончыла гімназію №6.




Былая маладзечанка Алена (справа) са сваёй сям'ёй у Флорыдзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае героямі публікацыі.**





## Чытайце праз тыдзень:

- **Бел-чырвона-белы сцяг – даўнейшы сімвал Беларусі. «РГ» распавядае гісторыю яго з'яўлення, а таксама шлях у беларускай гісторыі.**

## 22 жніўня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература +1,7°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +30,6°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,6 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаму вы выходзіце на акцыі салідарнасці?

Жанчыны ў Маладзечне праводзяць акцыі супраць гвалту і фальсіфікацыі выбараў ад 12 жніўня. «РГ» запытала ў жанчын, чаму яны выходзяць на вуліцы горада і чаго спрабуюць дасягнуць.



**Алеся Каролік, рэжысёр абрадаў і свят:**
– Гэта вельмі добры фармат, каб выказаць сваю пазіцыю. Ён самы бяспечны, таму што ў нас мірныя мэты. Мы не заклікаем да гвалту, мы супраць гвалту. У нас ёсць шмат фарматаў, каб выказаць пазіцыю.



**Алена Бароўская, беспрацоўная:**
– Я хачу перамен у нашай прыгожай краіне, у якой нарадзілася, вырасла, атрымала адукацыю. Хочацца лепшага. Мы, беларусы, – мірны народ. Мы ўсё хочам зрабіць мірным шляхам, каб нас пачулі.



**Наталля Пашчук, настаўніца:**
– У нас ёсць абраны прэзідэнт. Трэба падтрымаць таго, якога мы абралі. Мне 61 год, і я ні разу не галасавала за Лукашэнку. Чула, што настаўнікам кажуць звальняцца. Лічу, што звальняцца павінны тыя, хто сфальсіфікаваў выбары.



**Крысціна Хрысценка, перакладчыца:**
– Не хочацца заставацца абыякавай да ўсіх гэтых падзей. Прыходжу па закліку сэрца.



**Вераніка Рудзько, у дэкрэтным адпачынку:**
– Калі з'явіўся інтэрнэт, ўбачыла, як выпускалі людзей з Акрэсціна. Гэта быў жах. Чытала інтэрв'ю жанчын і мужчын, проста паўночы плакала. Гэта нельга проста так пакінуць. Усе, у каго няма доступу да незалежнай інфармацыі, павінны ведаць, што адбываецца ў нашай Беларусі.



**Кацярына Ліцюк, гаспадыня:**
– Хопіць хлусіць. Я прыйшла змагацца за свае слова. Тыя, хто глядзіць наша тэлебачанне, не бачаць, як АМАП збіваў людзей. Гэты былі нашы браты і сёстры. Людзі вераць прыгожаму тэксту і карцінцы. Мы супраць гвалту, каб нашы галасы ўлічваліся, таму будзем да канца і да перамогі.



**Ангеліна Карысцялёва, студэнтка:**
– Я хачу тут застацца, хачу прыносіць карысць сваёй краіне. Два месяцы таму былі думкі, каб толькі адсюль з'ехаць, таму што тут не было чаго лавіць. А цяпер з'явілася надзея, што ў Беларусі ўсё зменіцца.

**Падрыхтаваў аддзел інфармацыі.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№34 (1321) 21.08.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1393. Падпісана ў друк у 9.00 20.08.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.